# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 10 5 сакавіка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

(2256) Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).




**Рэферэндум. Гэта слова, бадай, найбольш часта гучыць па тэлебачанні і радыё, трапляецца на старонках розных выданняў. Рэферэндум, у неабходнасці якога даўно ўжо пераконвае парламенцкая апазіцыя БНФ, відаць, становіцца праблемай, усвядомленай масамі. Ініцыятыўная група з 1 200 чалавек мае намер за тыдзень сабраць 350 тысяч подпісаў у падтрымку ідэі рэферэндуму на Беларусі аб даверы парламенту і правядзенні датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет рэспублікі.**

**Да пачатку работы чарговай сесіі Вярхоўнага Савета, намечанай на 11 сакавіка, апазіцыя гатова прадаставіць дакументы аб рэферэндуме і праект закона аб выбарах народных дэпутатаў.**

**Абвінавачванні ў няздольнасці сённяшніх структур вярхоўнай улады абараніць інтарэсы працоўнага чалавека, прамаруджванні з правядзеннем рэформ, прыняццем радыкальных рашэнняў прагучалі на мітынгу ў падтрымку рэферэндуму, што адбыўся 23 лютага ў Мінску на плошчы Незалежнасці.**

**НА ЗДЫМКУ: мітынг у падтрымку рэферэндуму.**

## ГРОШЫ — ЛАПАТАЙ?



**Наша жыццё складаецца з ланцужка самых невытлумачальных парадоксаў. Разгледзім адзін з іх: хто і як сёння, як кажуць, грабе грошы лапатай. Гэта жанчына, што ўстае завідна, каб убраць снег у сцюжу і ў мароз!..**

**(Заканчэнне фотарэпартажу на 3-й стар.).**

*ПАЛЕМІКА*

## ІМЯ ДАЕЦЦА ТОЛЬКІ РАЗ...

### ДА ПРАБЛЕМЫ ВЯРТАННЯ БЕЛАРУСКІМ ПАСЕЛІШЧАМ ГІСТАРЫЧНЫХ НАЗВАЎ

Адзін палітычны аглядальнік нядаўна вельмі ўдала заўважыў: нават злавесная пустата магазінаў не можа адцягнуць грамадскую ўвагу ад праблемы назваў. Небывалая папулярнасць тапанімічнай тэматыкі хоць і не самы важны факт нашай рэчаіснасці, тым не менш з'ява заканамерная, паколькі яна абумоўлена неабходнасцю асэнсавання той сферы быцця, якая завецца спадчынай, гістарычнай памяццю і якая непасрэдна звязана з адраджэннем вялікай цікавасці да мінулага роднай зямлі.

Але аб'яўленне геаграфічных назваў адным з відаў помнікаў гісторыі культуры народа зусім не азначае, што ў грамадскім усведамленні адразу ж сфарміруецца адпаведнае перакананне. Яшчэ ўчора «па просьбе працоўных» паўсюдна сотні старых назваў населеных пунктаў замяняліся на новыя. Сёння па хадайніцтву тых жа працоўных новыя імёны мяняюць на старыя. Як учора, так і сёння асцярожны, узважаны, навукова абгрунтаваны падыход да геаграфічных назваў, да пытанняў перайменаванняў, іх мэтазгоднасці ці, наадварот, немэтазгоднасці ў кожным канкрэтным выпадку яўна ўступае напору стыхіі і суб'ектывізму. Часам назвы не проста мяняюць, іх знімаюць, як застарэлыя лозунгі.

Прадбачу пярэчанне: масавыя перайменаванні ў недалёкім мінулым і ў нашы дні — далёка не адно і тое ж. У першым выпадку тапанімічная сістэма розных рэгіёнаў краіны парушалася ці нават разбуралася. У другім выпадку — яна рэстаўрыруецца, таму, маўляў, трэба спяшацца вярнуць тое, што яшчэ можна вярнуць.

Зразумела, прамаруджванне ў добрай справе недапушчальнае і недаравальнае. Але перш чым нешта рабіць, трэба грунтоўна разабрацца ў самой справе. Калі нехта думае, што памылкі, якія рабіліся ў мінулыя дзесяцігоддзі ў тапанімічнай сферы, можна выправіць, у адрозненне, напрыклад, ад эканамічнай сферы, неадкладна і імгненна, то такая думка з'яўляецца не чым іншым, як ілюзіяй непрафесіянала. «Кавалерыйскія наскокі», якія ставяць мэтай неадкладнае вяртанне на карту рэспублікі ўсіх скасаваных раней найменняў, праблему не вырашаць, а толькі канчаткова заблытаюць сітуацыю.

У гэтым плане мне здаецца вельмі цікавым і ў пэўным сэнсе павучальным артыкул Мар'яна Віжа «Вяртаць! Але як?» («ГР», № 45 за 1991 год). Нават сам загаловак артыкула красамоўны. Аўтар як быццам за безумоўнае вяртанне «рэпрэсіраваных» тапонімаў, ён упэўнена галасуе: «Вяртаць!». Але як толькі пачынае аналізаваць канкрэтныя назвы ( напрыклад, **Ігумен** і **Чэрвень**), дык адразу задаецца пытаннем: «Як вяртаць?» Сапраўды, дзе тыя крытэрыі, якія трэба ўлічваць пры вырашэнні няпростых тапанімічных пытанняў?

У ідэале геаграфічнае імя, як і імя чалавеку, павінна давацца толькі адзін раз. На жаль, гэта толькі ў ідэале, але ж да яго мы павінны імкнуцца. Трэба памятаць, што першаснае геаграфічнае найменне з'яўляецца натуральным, усе іншыя, другасныя назвы, якімі б удалымі яны ні былі, застануцца штучнымі. Натуральнасць геаграфічнай назвы праяўляецца перш за ўсё ў канкрэтнасці зместу, які нясе імя. І, наадварот, другасныя, штучныя найменні з'яўляюцца заўсёды ў значнай ступені абстрактнымі. Лепшым жа неабходна лічыць той тапонім, культурна-пазнавальны дыяпазон якога з'яўляецца больш шырокім. Звернемся да прыкладаў.

У 1924 годзе гораду Ігумену было прысвоена новае найменне — Чэрвень. Папярэдняя назва ўзнікла ад слова **ігумен** — «настаяцель мужчынскага манастыра». Якую інфармацыю можа прачытаць тапанімiст з аднаго гэтага факта? Вакол манастыра (час яго існавання павінны вызначыць

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

ХЕЛЬСІНКСКІ АКТ НБСЕ

## ДАЛУЧЭННЕ БЕЛАРУСІ

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч разам з кіраўнікамі шэрагу дзяржаў — членаў СНД прымаў удзел у сераду, 26 лютага, у палацы «Фінляндыя» ва ўрачыстым падпісанні Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, якое сімвалізуе ўступленне гэтых дзяржаў у паўнапраўныя ўдзельнікі НБСЕ. На прэс-канферэнцыі ў аэрапорце Хельсінкі С. Шушкевіч адзначыў, што многія ў свеце яшчэ не ведаюць аб існаванні ў цэнтры Еўропы такой дзяржавы, як Рэспубліка Беларусь. Наша дзяржаўнасць узыходзіць да вельмі даўніх часоў, аднак як мінімум дзвесце гадоў гэта замоўчвалася, сказаў ён. С. Шушкевіч рашуча абверг нядаўнюю заяву агенцтва Рэйтар аб тым, што Беларусь нібыта мае тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Літвы. Падпісанне Заключнага акта НБСЕ з'явіцца наглядным сведчаннем таго, што ў нас няма ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій да суседніх дзяржаў, заявіў ён.

Рэспубліка Беларусь, прадоўжыў С. Шушкевіч, мае права на стварэнне сваіх Узброеных Сіл. Аднак рэалізацыя гэтага права не прымітыўны і не хуткі працэс. Мы маем намер як мага хутчэй вывесці стратэгічную ядзерную зброю з нашай тэрыторыі і стаць нейтральнай еўрапейскай дзяржавай, гэта значыць не ўступаць ні ў якія ваенныя саюзы. Але мы не можам зрабіць гэта хутка, бо гэта патрабуе вялікіх сродкаў. Тактычная ядзерная зброя будзе поўнасцю выведзена з тэрыторыі Беларусі да 1 ліпеня гэтага года, а стратэгічная — на працягу двух-трох гадоў, калі эканамічныя рэсурсы дазволяць нам зрабіць гэта.

ЗВАРОТ ДА ЎЛАД

## ВЫДАЎЦЫ ПРОСЯЦЬ ПАРАТУНКУ

Выдавецкая справа ў Беларусі церпіць, можна сказаць, крах. Просяць паратунку газеты, якія выходзяць нерэгулярна з-за таго, што няма паперы. Многія выданні не сёння-заўтра зачыняцца з-за таго, што няма каму іх фінансаваць.

Непрадуманая і жорсткая падатковая палітыка ўрада можа прывесці да яшчэ аднаго Чарнобыля — духоўнага. Гэта сцвярджаюць у сваім Звароце да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь кіраўнікі дзесяці дзяржаўных выдавецтваў рэспублікі. Яны заклікаюць прадухіліць крах беларускага кнігавыдання, якое без перабольшання з'яўляецца падмуркам нацыянальнай культуры.

Пачынаючы з 1990 года, пагражальнымі тэмпамі ідзе спад выпуску кніг, гаворыцца ў Звароце, асабліва прыярытэтных напрамкаў — навучальнай, дзіцячай, навукова-тэхнічнай, выданняў па нацыянальнаму мастацтву і культуры, даведачных, энцыклапедычных, для камплектавання масавых бібліятэк і на экспарт.

Неадэкватныя сапраўднаму рынку варункі, у якіх мы апынуліся, пішуць выдаўцы, адсутнасць стабільнага забеспячэння паперай і іншымі матэрыяламі, няспынны, эканамічна нерэгулюемы дзяржавай рост цэн на іх, а ў выніку — і на паліграфічныя паслугі прывядуць большасць рэнтабельных, эфектыўна працуючых сёння прадпрыемстваў да эканамічнага краху і спынення іх дзейнасці.

РАДЫЯЦЫЯ

## ЯК «СЦЕРЦІ» ЧАРНОБЫЛЬСКІ СЛЕД?

Вучоным Беларусі давялося адмовіцца ад прыгожай, але, як аказалася, памылковай ідэі ачысткі зямлі, заражанай радыяцыяй, з дапамогай раслін. Аўтары задумы прапаноўвалі засяваць заражаныя ўчасткі раслінамі-санітарамі, якія павінны былі ўбіраць у сябе цэзій, стронцый і інш. Сабраны ўраджай меркавалася спальваць у спецыяльных герметычных печках і прасаваны попел захоўваць у магільніках. Па разліках, фітадэзактывацыя — нават тэрмін такі з'явіўся — дазволіла б хутка і параўнаўча танна вярнуць пацярпеўшую зямлю да жыцця. Ва ўсякім выпадку, у лабараторных доследах так яно і адбывалася.

На практыцы ж эксперыменты, якія правялі вучоныя Інстытута радыебіялогіі і іншых даследчых цэнтраў Акадэміі навук Беларусі, паказалі, што толькі пяць працэнтаў выпаўшых радыенуклідаў знаходзяцца ў даступнай для раслін форме. Мала таго, некаторыя глебы здольны звязваць і гэта нямногае, зводзячы намаганні «зялёнага санітара» амаль да нуля.

Расчараваўшы прыхільнікаў фітадэзактывацыі, эксперыменты ўсё ж даюць падставы для некаторага апымізму. Было выяўлена, што злакавыя культуры, паглынаючы з глебы нейкую колькасць радыенуклідаў, назапашваюць іх не ў зерні, а ў сцяблях і лісці. Такім чынам, нават на даволі забруджаных участках можна атрымаць чысты ўраджай.

РАСКРАДАЮЦЬ ДАПАМОГУ

## СПРАВА БЫЛА Ў БРАГІНЕ

По падазрэнню ў буйных крадзяжах гуманітарнай дапамогі затрыманы галоўны ўрач цэнтральнай бальніцы Брагіна Васіль Перац і галоўная медсястра Людміла Рудзёнак. У кватэрах В. Перца (адна з іх... у Мінску) знойдзены скрынкі з мяснымі і агароднiннымі кансервамі, шакаладам, какава... Усяго каля шасцідзесяці назваў прадуктаў, якія накіроўваліся ў бальніцу раёна, што найбольш пацярпеў ад чарнобыльскай аварыі, па каналах службы міласэрнасці.

На 40 тысяч рублёў далікатэсаў «захоўвалася» на момант вобыску і ў кватэры галоўнай медсястры.

Следства распутвае брагінскі вузел. Але гэта, відаць, не такая простая справа. Праз колькі дзён пасля таго, як успыхнуў скандал з гуманітарнай дапамогай, у сваёй кватэры застрэліўся следчы, які вёў справу В. Пераца і Л. Рудзёнак. Брагінскі дэтэктыў набірае розгаласу.

*«Я лічу, што мы разумныя людзі, але з ненармальным мысленнем.*

*Скажаце, не? Добра. Але ж ці можна лічыць нармальным чалавека, які з года ў год вырошчвае ўраджай, а затым да 40—50 працэнтаў яго свядома знішчае і разам з тым крычыць, што не хапае харчавання? Ці нармальны чалавек, які дзесяцігоддзямі закопвае мільярды ў неэфектыўную меліярацыю, а раней акультураныя землі зарастаюць хмызняком? Куды ні зірні — усё ненармальна з пункту погляду цвярозага розуму.*

*Без нацыянальнай свядомасці чалавек амаль нічога не можа зрабіць на ўзроўні сучаснай тэхналогіі. Аднаміце ў японца або немца фактар нацыянальнай свядомасці — і ці захаваюцца так званы японскі цуд і навукова-тэхнічная і эканамічная моц Нямеччыны?..»*

*Мікалай САВІЦКІ, прафесар Беларускага эканамічнага універсітэта.*

«ЛіМу» — 60 ГАДОЎ

## ІНШЫ ЧАС — НОВЫЯ ПЕСНІ

«Калі мы рыхтавалі юбілейны нумар, яшчэ раз зазірнулі ў старыя падшыўкі і ўбачылі, што ўсе 60 гадоў свайго існавання лімаўцы ішлі ўпоравень з часам. Сёння нешта ўспрымаецца з усмешкай, за нешта нават сорамна, і хацелася б, каб гэтага не было. І наша газета раней граміла «нацдэмаў», «касмапалітаў» і іншых ворагаў народа. Але, як кажуць, з песні слова не выкінеш».

Такую думку пра сваё выданне выказаў А. Ганчароў, намеснік галоўнага рэдактара «ЛіМа» ў інтэрв'ю газеце «Звязда». «ЛіМ» 26 лютага адзначаў сваё 60-годдзе. Галоўная задача гэтага папулярнага выдання цяпер — дапамагчы Беларусі набыць рэальны суверэнітэт.

ФУНДАТАРЫ СТЫПЕНДЫЙ

## НА СТАЖЫРОЎКУ Ў ЛОНДАН

Міністэрства замежных спраў Вялікабрытаніі і Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі фундавалі трохмесячныя стыпендыі — стажыроўкі ў Лонданскім універсітэце для юнакоў і дзяўчат з Беларусі.

Сярод напрамкаў іх заняткаў значацца гуманітарныя навукі, а таксама эканоміка, бізнес, агракультура. Да прэтэндэнтаў прад'яўляюцца такія патрабаванні: мець вышэйшую адукацыю, лідэрскія схільнасці, добра ведаць не толькі англійскую, але і беларускую мовы. Кантроль за падборам кандыдатаў ускладзены на Міжнародную асацыяцыю беларусістаў, віцэ-прэзідэнт якой доктар Джым Дзінглі выкладае ў Лонданскім універсітэце.

Ужо адабраны першыя шэсць кандыдатаў на стажыроўку ў Англію.

З ПАВЕДАМЛЕННЯ ДЗЯРЖКАМІТЭТА РБ

Да пачатку гэтага года ў Беларусі дзейнічала звыш 10 тысяч кааператываў і малых прадпрыемстваў, 115 асацыяцый, 20 канцэрнаў, зарэгістравана 283 сумесныя прадпрыемствы, 25 камерцыйных банкаў. Створана 757 фермерскіх гаспадарак. На долю новых недзяржаўных структур, уключаючы ўласнасць насельніцтва, прыпадала прыкладна 4 працэнты кошту асноўных фондаў рэспублікі, 7 працэнтаў выпускаемай прадукцыі.

***

За 1991 год у рэспубліцы перададзена ў калектыўную і прыватную ўласнасць розных аб'ектаў на суму прыкладна 208 мільёнаў рублёў. У іх ліку 12 прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання, 11 атэльe і майстэрань службы быту, 27 прамысловых прадпрыемстваў. Ва ўласнасць грамадзян перайшло 39 тысяч кватэр.

***

На 1 студзеня 1992 года колькасць насельніцтва рэспублікі склала 10,3 мільёна чалавек і павялічылася ў параўнанні з 1990 годам на 16 тысяч чалавек (0,2 працэнта). Натуральны прырост яго склаў 18 тысяч чалавек — на 44 працэнты менш, чым у 1990 годзе. Ва ўсіх сферах дзейнасці занята больш 5 мільёнаў чалавек. На дзяржаўны сектар прыпадала 72 працэнты агульнай колькасці занятых у народнай гаспадарцы. У сферы прыватнага і індывідуальнага прадпрымальніцтва налічвалася 90 тысяч чалавек. Іх доля ў агульнай колькасці працуючых за год павялічылася з 1,2 да 1,8 працэнта.

***

З забруджаных раёнаў перасялена 33 тысячы чалавек. Акрамя таго, выехала па свабоднаму перасяленню 46 тысяч чалавек. За гэты перыяд уведзены ў дзеянне агульнаадукацыйныя школы на 12,4 тысячы вучнёўскіх месцаў, дашкольныя ўстановы — на 3,5 тысячы месцаў, бальніцы — на 951 ложак, амбулаторна-паліклінічныя ўстановы — на 5,1 тысячы наведванняў у змену, клубы і Дамы культуры — на 3,6 тысячы месцаў і іншыя аб'екты сацыяльна-культурнага прызначэння.

***

У 1991 годзе аб'ём экспарту Рэспублікі Беларусь склаў 2,9 мільярда інвалютных рублёў (па камерцыйнаму курсу) і зменшыўся ў параўнанні з 1990 годам на 42 працэнты. Экспарт грузавых аўтамабіляў і тэлевізараў скараціўся амаль напалову, калійных угнаенняў — на 36,9 працэнта, трактароў — на 26,2, халадзільнікаў — на 14,1 працэнта. У аб'ёме атрыманай прадукцыі экспартныя пастаўкі займалі 2,6 працэнта, у 1990 годзе — 4,5 працэнта.

СВЯТА З ГІСТОРЫІ?






Рух «За дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць» 23 лютага ў мінскім парку імя Горкага наладзіў мітынг, прысвечаны 74-й гадавіне Савецкай Арміі. На ім усё было, як заўсёды ў гэты дзень на працягу існавання Савецкага Саюза: развяваліся сцягі СССР і БССР, гучалі іх гімны, словы аб непарушнасці арміі і народа. Праўда, час унёс карэктывы і ў гэта свята. Асноўны матыў літаральна ўсіх выступленняў — не дапусціць расцягвання арміі па нацыянальных кватэрах, не ператварыць яе ў заложніцу міжнацыянальных канфліктаў, забяспечыць сацыяльную абароненасць ваеннаслужачых.

НА ЗДЫМКУ: у час мітынгу.

# АРКАДЗЬ СМОЛІЧ: ПАКАЗАННІ НА ДОПЫТАХ

Формулировка обвинения о том, что в своей деятельности я имел задачей укрепление своего влияния на практическую работу социалистического строительства в целях создания условий для реставрации БНР, — является неправильной...

Теории самостоятельности белорусского хозяйства с выводами относительно отторжения Белоруссии от Советского Союза я не проповедовал. В своих работах я подчеркиваю своеобразие белорусских условий, значительно меньшее впрочем, чем для других республик и областей, но никоим образом не думал и не думаю, что в этих условиях Советская система хуже себя оправдывает, чем в каких-либо других.

Таким образом, из предъявленных мне обвинений я считаю обоснованным обвинение в собирании и организации национально-настроенной белорусской интеллигенции без учета ее классового лица, что могло привести и фактически привело к ряду последствий, мешающих социалистическому строительству. Я полагаю, что человеку с таким национал-демократическим прошлым, как у меня, при искренном желании верно служить социалистическому строительству, вообще не следовало в какой-нибудь мере вмешиваться в проведение нацполитики, имея в виду рецидивы национализма...

Формулировки этого показания могут быть неточными ввиду моей взволнованности в данный момент...

ИГНАТОВСКИЙ В. М.—Президент БАН известен мне с 1913 года; однако только с 1925 года я ближе с ним познакомился и до последнего времени работал под его руководством. В. М. Игнатовский — бывший эсэр и свою старую идеологию изживал уже в последнее 10-летие. Даже на моих глазах в нем произошла некоторая эволюция. В вопросах нацполитики он хорошо усвоил себе партийную формулировку и старается проводить ее в жизнь. Некоторая доля национализма у него может быть и есть, — во всяком случае повышенный интерес к нацпроблемам. Однако в защите национально-культурных интересов подчеркнуто уступчив; это вызывало все время недовольство им у нацдемократов, особенно у Жилуновича, А. Адамовича и Балицкого, которые вели против него агитацию, используя именно этот момент. Игнатовский особенно внимательно относится к нацменьшинствам. Он первый предложил изжить из употребления в белорусском языке слово «жид», в терминологии защищает интернациональные слова и руссицизмы. С каждым посетителем он старается говорить на его языке, для чего изучал язык-идиш. Этот подчеркнутый интернационализм оказывал хорошее влияние на Инбелкульт. С работающими в БАН нацдемократами Игнатовский вообще поддерживал хорошие отношения. Не любил только А. Цвикевича, за что, не знаю, а в 1927/28 г. и ко мне относился не совсем дружелюбно, должно быть, за поддержку Цвикевича. Часто Игнатовский бывал на вечерах у нацдемократов; делал это он, я думаю, из нежелания быть обвиненным в комчванстве, тем более, что это могла использовать против него группа Жилуновича. Политические разговоры, однако, на этих вечерах при нем не велись или же говорили в строго выдержанном тоне.

Працяг. Пачатак у №№ 8, 9.

В заседаниях Президиума ИБК Игнатовский часто информировал о решениях директивных органов, еще не опубликованных, но относящихся к Инбелкульту и требующих выполнения его силами. Из секретных заданий помню задание о подготовке материалов о Гомельщине для специальной комиссии из центра; затем о составлении характеристик на кандидатов в академики при реформе Инбелкульта в БАН. Политических новостей и сплетен я от него не слыхал.

**от 15-го августа 1930 года**

О Г. И. ГОРЕЦКОМ показываю следующее:

Является он, безусловно, выдающейся фигурой среди всех известных мне молодых специалистов сельского хозяйства и вообще среди нацдемократической интеллигенции. Он объединяет в себе очень хорошую научную подготовку с большой трудоспособностью, с организаторскими и администраторскими талантами.

Познакомился я с ним в 1924-м году в Минске, но уже раньше был много наслышан о нем от его товарищей по Москве, в частности, от КИСЛЯКОВА, о его работе по созданию Ассоциации, вообще об организационных способностях. Слыхал затем о ликвидации Ассоциации, об аресте Горецкого, но точных причин не знал. При первой нашей встрече в 1924-м году я, между прочим, осведомился, желает-ли он переехать на работу в Белоруссию. Тогда он был еще первый год аспирантом в НИИ с. х. экономии в Москве и заявил, что собирается еще долго учиться. Впрочем, в 1925 г. уже он дал согласие преподавать в Горках, приезжая для этой цели из Москвы. В 1926-м году, когда поднялся вопрос о заместителе Малюшицкого, которого раньше предполагали назначить директором Бел. НИИ-с. х., несколько человек выдвинуло кандидатуру Горецкого; выдвигали, правда, и мою кандидатуру, но я ее снял в пользу Горецкого, так как чувствовал себя сильно отставшим от агрономии и вообще полагал, что Горецкий с этим делом лучше справится. Это мое предположение вполне подтвердилось...

Приходилось мне говорить с Горецким и на политические темы. Он, безусловно, является достаточно ярким белорусским нацдемократом и обычно явления политической жизни расценивал с точки зрения их пользы или вреда для белорусского возрождения. Его прежние социальные и политические взгляды мне недостаточно известны, но уже в 1928 г. он мне лично определенно заявил, что стоит за социалистический путь развития Белоруссии и что эту-же точку зрения должны принять все «белорусы», так как именно она для Белоруссии, исходя из ее национальных интересов, является наиболее приемлемой. При всякой иной постановке вопроса Белоруссии суждена роль аграрной колонии, и только в составе СССР она может индустриально развиваться и как западная, наиболее интенсивная часть Союза, и в виду принципа усиленной индустриализации окраин, проводимого партией...

**от 20 августа 1930**

В. Ю. ЛАСТОВСКОГО можно считать наиболее типичным и последовательным идеологом белорусского нацдемократизма. Еще до и во время войны в нашенивской группе выявилось два течения — одно представленное громадовцами во главе с бр. ЛУЦКЕВИЧАМИ, — связанное с русскими и польскими революционными организациями и выставлявшее социальные требования наряду с национальными, и другое — чисто националистическое, проповедовавшее исключительно активную борьбу за национальность, как самостоятельную и наибольшую ценность, выставлявшее принцип классового мира и единого национального фронта. Это течение брало, напр., под свою защиту белорусских клерикалов и требовало коалиции всех классовых белорусских группировок — до крупной буржуазии включительно для защиты национальных интересов. Под влияние этой группы попали тогда почти все белорусские поэты и культурники во главе с Купалой и Богдановичем, с 1911 года она фактически руководила «Нашей нивой», что вызвало изменение ее («Н. нивы») платформы в сторону чистого национализма. Вождем и идеологом этой группы был В. Ю. Ластовский. Ему принадлежит первая националистическая концепция белорусской истории и ряд принципиальных статей в «Нашей ниве», обосновавших активный бесклассовый национализм. Влияние его было чрезвычайно велико. Он умел объединить и организовать вокруг себя людей, особенно же молодежь, иногда даже совсем других взглядов. Так, под его влиянием находился Л. Гмырак—партийный эсер-максималист, человек вообще очень твердых убеждений.

**Аляксей КАРОЛЬ,**
**Уладзімір МІХНЮК.**

# ГРОШЫ— ЛАПАТАЙ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).



**Можа, тыя дзве працаўніцы (на здымку злева), якія размешваюць раствор у заводскім цэху, маюць за свае мазалі і пот вялікія грошы! Не. На жаль, самая цяжкая праца не гарантуе нам добрага заробку. І наогул, той, хто сумленна працуе — раскошы не ведае. Нават высокакваліфікаваны токар не можа параўнаць свае даходы з даходамі дзялкоў, махляроў, спекулянтаў. Як многа іх развялося! І вершаць яны сваю справу зусім адкрыта (здымак справа, зроблены на Камароўскім рынку ў Мінску), не баючыся фотааб'ектыву ды і, напэўна, улад. Але чаго баяцца, калі цяпер у нас усё дазволена, а колішняя спекуляцыя называецца бізнесам. Цяпер у нас з грашыма той, хто мае што прадаваць. А каб жа сваё! Не паспееш зайсці ў магазін, як да цябе падыдуць пасрэднікі і цішком спытаюць: «Што патрэбна!» Вядома, за свае паслугі бяруць «зверху» законнага кошту. І мы даём, парушаючы закон і мараль, ідзём на здзелку са сваім сумленнем. Бо куды дзенешся, — у свабодным продажы няма патрэбных тавараў. А з-пад прылаўка, з чорнага хода, як у нас кажуць, ёсць усё. Зноў жа, гледзячы для каго ёсць. Для гэтых жанчын-працаўніц, як і для большасці сем'яў, цяпер недаступны ні самы просценькі халадзільнік, ні тэлевізар, бо гэта ўжо таксама раскоша. Яе могуць сабе дазволіць тыя, хто варочае тысячамі. Як гэтыя маладыя людзі (здымак унізе). Зарабляюць яны, відаць, нядрэнна. Нікому не забараняецца гуляць у так званую «шасцёрку» — кружочкі з лічбамі. Усё залежыць ад шчасця, ад лёсу!.. Не скажыце. І рулетка, і гэта шасцёрка, і тым больш гульня ў напарстак — падман прастакоў, а спрытным юнакам прыносяць вялікія грошы. Спазнаўшы з маладых год, што грошы можна грабсці лапатай за кошт махлярства, яны ўжо ніколі не зоймуцца сумленнай працай, не нажывуць мазалёў на сваіх руках, не будуць даражыць рублём.**





Фота В. СТАВЕРА.

## ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ

# ВЫЗВАЛЕННЕ ЦІ НЯВОЛЯ?

## 1939 ГОД — У НАШАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЯДОМАСЦІ

### VI

Прызнацца ў сяброўскіх сувязях з «лідэрам беларускіх фашыстаў», як часта называлі Луцкевіча ў савецкім друку, азначала падвергнуць сябе і сваіх блізкіх яўнай пагрозе рэпрэсій з боку НКУС. Але Янка Купала пайшоў на гэту рызыку, пайшоў, нягледзячы на небяспеку таксама стаць ахвярай рэпрэсій. Кіравала ім, як мне здаецца, незадушанае да канца таталітарным рэжымам пачуццё асабістай годнасці, пачуццё незалежнасці і жаданне захаваць хаця б невялічкую жменьку свабоды ў варунках татальнага пераследу ўсяго свабодалюбівага. Янка Купала да канца застаўся верным тым некаторым ідэалам нашаніўскай пары, ідэалам сяброўства і вернасці беларускасці.

Няма сумнення, што пасылка Янкі Купалы ў турму да Луцкевіча не магла прайсці міма пільнага вока органаў НКУС. У берыеўскім міністэрстве ведалі, але не адрэагавалі. Відаць, пакінулі гэты факт на пазнейшы час. Вырашылі выцягнуць яго пры адпаведнай нагодзе, калі трэба будзе пашантажыраваць Янку Купалу.

Ці падобны момант для шантажу наступіў калі-небудзь? Ці выкарысталі энкавэдысты яшчэ адну магчымасць, каб зноў духоўна забіць нашага першага паэта? А можа ў гэтым якраз і трэба дашуквацца прычыны яго заўчаснай самагубнай смерці? Пакуль што на гэтыя пытанні мы не маем адказу.

Арышт і суд над Антонам Луцкевічам, як гэта і заўжды бывала пры сталінскіх рэпрэсіях, не быў ізаляваный асобнай акцыяй. Рэпрэсіі павінны былі датычыць і ўсіх яго блізкіх. Каго не ўдалося забраць адразу, арыштавалі пазней. Пасля вайны ў 1945 годзе сталінскім апрычнікам удалося схапіць і абодвух сыноў Антона Луцкевіча. Старэйшы, Юрка, па сфабрыкаванаму абвінавачванню атрымаў 25 гадоў зняволення, а малодшы, Лявон, — 10 гадоў у папраўчых лагерах узмоцненага рэжыму. На сыноў нашага першага адраджэнца на доўгія гады лягла пляма-ярлык «саўдзельнікаў у злачынствах». Яны надоўга былі залічаны ў катэгорыю другога сорту савецкіх грамадзян. Таму не маглі яны ў свой час пацікавіцца лёсам свайго бацькі. Першы запыт ад іх імя пайшоў у КДБ толькі на пачатку сямідзесятых гадоў. Адказ ад нашчадкаў Берыі прыйшоў даволі хутка і быў лаканічны: «Ваш бацька Антон Іванавіч Луцкевіч памёр у верасні 1946 года ў адным з лагераў Міністэрства ўнутраных спраў СССР у Сяміпалацінскай вобласці Казахстану». Ані табе дакладнай даты смерці, ані канкрэтнага месца, дзе быў зняволены, ані дзе знаходзіцца ягоная магіла. Але час быў застойны, час быў такі, што трэба было задаволіцца падобнымі сціплымі звесткамі. Яны і сталі падставай для высвятлення біяграфічных даных Антона. Таму і ягоны першы біёграф, Аляксандра Бергман, практычна бескрытычна прыняла гэтую афіцыйную версію апошніх гадоў яго жыцця і ягонай смерці. З'яўляецца яна найбольш распаўсюджанай і агульнапрынятай аж да сённяшняга перабудовачнага дня.

Версія гэта, аднак, мае шмат запытанняў і недакладнасцей. Па-першае, яна вельмі прыпамінае нам тыя славутыя савецкія прысуды: 10 гадоў без права перапіскі. Як вядома, у сапраўднасці прысуд гэты азначаў пакаранне смерцю, а падобная нявінная, як на сталінскія часы, фармулёўка пераказвалася сям'і, каб у нейкай ступені зменшыць уражанне ад татальнага крывавага тэрору. Здаецца мне, што і ў выпадку з Антонам Луцкевічам той самы прымітыўны прыём.

Па-другое, сумненні нашы адносна афіцыйнай версіі смерці Антона Луцкевіча паходзяць ад таго факта, што абсалютна няма ніякіх сведкаў, якія б сядзелі разам з Луцкевічам у лагеры, у Казахстане. Няма сведкаў і сярод мясцовых жыхароў, у тым выпадку, калі б Луцкевічу дазволілі адбываць замест лагера ссылку. Мабыць у сувязі з фальшывым характарам гэтай версіі і маўчаць кагэбісты на тэму дакладнага месца пахавання Антона, не называюць лагера, дзе ён сядзеў.

Што ж датычыць другой версіі гібелі Антона Луцкевіча, да якой, трэба прызнаць, усё больш і больш схіляюся і я, дык яна паходзіць ад беларускай палітычнай эміграцыі ў Злучаных Штатах Амерыкі. Там за акіянам ніколі не верылі і не вераць да сённяшняга дня, што энкавэдысты маглі так лагодна паступіць з «першым беларускім фашыстам» (паводле савецкай афіцыйнай тэрміналогіі) і даць яму памерці ўласнай смерцю, даць яму магчымасць перажыць вайну. Праўда, і тут, як і ў першым выпадку, непасрэдных сведкаў гібелі Антона Луцкевіча няма. Ёсць толькі сведкі пасрэдныя, тыя, хто сядзеў разам з ім у Менскай турме, хто на ўласнай скуры адчуў той жахлівы лёс, які спаткаў менскіх вязняў.

Ёсць даволі пэўныя сведчанні і аб тым, што пачатак савецка-германскай вайны Антон Луцкевіч сустрэў у Менскай турме, што ўлады не паспелі вывезці яго на Усход.

Паспрабуем жа аднавіць апошнія дні жыцця Антона Луцкевіча паводле гэтай другой, як мне здаецца, больш верагоднай версіі. Пачатак вайны застаў органы НКУС, як і ўсю савецкую і партыйную махіну, знянацку. Немцы пасоўваліся наперад так хутка, што не паспявалі эвакуіраваць банкі, партыйныя і савецкія ўстановы і шмат іншага, што ні ў якім разе не павінна было трапіць у рукі ворага. Гітлераўцы захапілі нават некалькі партыйных архіваў, у тым ліку і вялізны архіў Смаленскай абласной партыйнай арганізацыі. Клопат мелі савецкія ўлады і з вязнямі турмаў і лагераў, што знаходзіліся на захадзе краіны. Але тут загад народнага камісара ўнутраных спраў Лаўрэнція Берыі быў абсалютна адназначны і ясны: калі не было магчымасці эвакуацыі палітычных вязняў на Усход, начальніку турмы быў дадзены загад фізічна ліквідаваць іх на месцы. Падобныя масавыя экзекуцыі і злачынствы былі здзейснены ў Беластоку, Вільні, Львове і ў іншых вялікіх і малых гарадах. Што датычыцца Менска, дык і тут часткова быў ажыццёўлены загад расстраляць найбольш небяспечных вязняў на месцы. А хто з'яўляецца гэтым «найбольш небяспечным», павінна была вырашаць мясцовая турэмная адміністрацыя. Правасуддзе ў дзеянні, маўляў! У Менску падобная натуральная селекцыя адбывалася ў вялікай нервознасці і паніцы. Справа ў тым, што сталіца Беларусі ўвесь час падвяргалася інтэнсіўным бамбардзіроўкам з паветра, што, зразумела, не спрыяла нармальнай рабоце катаў з НКУС. Паўстала выразная блытаніна і хаос. У гэтай атмасферы чэкісцкая куля спакойна магла абарваць жыццё Луцкевіча. Энкавэдысты не паспявалі хаваць расстраляных, і пасля ўваходу немцаў у горад мясцовае насельніцтва атрымала доступ да страшнай сцэны масавага забойства. На працягу некалькіх дзён менчукі сярод трупаў шукалі сваіх блізкіх. Аднак, як сведчаць беларускія дзеячы, якія ў гэты час знаходзіліся ў Менску, сярод расстраляных трупа Антона Луцкевіча не знайшлося. А яго шукалі, шукалі вельмі дакладна, бо ў Менску ведалі, дзе знаходзіцца першы беларускі адраджэнец.

Вось чаму найбольш верагодная версія яго лёсу грунтуецца на тым, што 25 чэрвеня з падпаленага нямецкай авіяцыяй Менска выйшла пад добрай аховай калона вязняў. Адным з гэтых вязняў і з'яўляўся Антон Луцкевіч. Ці быў здольны 57-гадовы інтэлігент, які не вызначаўся надзвычайным здароўем, вытрымаць гэты марш смерці? Адказ тут можа быць толькі адзін.

Калона накіроўвалася ў бок Бабруйска. Разлік быў вельмі просты: у Бабруйску знаходзілася вялікая перасыльная турма, а на дадатак дарога на Оршу была ў гэты час ужо перарэзана нямецкім дэсантам.

Марш вязняў на Бабруйск ператварыўся ў марш смерці. Нямецкая авіяцыя, якая ўвесь час прымала калону вязняў за вайскоўцаў, няшчадна бамбіла іх. Вязні пры кожнай нагодзе спрабавалі ўцячы, канвой страляў без разбору, намагаючыся пазбавіцца ад клапатлівага цяжару ў выглядзе вязняў, якія прыцягвалі небяспечную ўвагу нямецкіх лётчыкаў. У польскай грамадскай арганізацыі «Усходні архіў», якая займаецца сталінскімі злачынствамі, мне ўдалося натрапіць на ўспаміны аднаго з вязняў, удзельнікаў гэтага маршу смерці. Паводле яго версіі, практычна ўсё было скончана на паўдарозе ад Менска да Бабруйска. Канвой, змучаны пастаяннымі ўцёкамі вязняў і налётамі немцаў (ад якіх цярпелі энкавэдысты: некалькі чалавек з канвою былі забіты і паранены), вырашыў расстраляць тых вязняў, што яшчэ засталіся. Пачуўшы гэта, вязні кінуліся ўрассыпную. Канвой адкрыў сляпы агонь. Шмат загінула, але шмат і выратавалася ў недалёкім лясочку. 57-гадовы Антон Луцкевіч, напэўна, не належаў да найбольш спрытных і фізічна моцных вязняў . Магілай яго, бадай што напэўна, стала адна з прыдарожных канаў шашы Менск—Бабруйск. Такім быў трагічны фінал аднаго з апосталаў адраджэння беларускай нацыі.

Мікола ІВАНОЎ.

Заканчэнне. Пачатак у № 9.



Масток. Фотаэцюд М. ЖЫЛІНСКАГА.

## ПРАЕКТ «ДЭМОГРАФЫ — ЗА МІР»

# ІДЭІ, ПА-РАНЕЙШАМУ АКТУАЛЬНЫЯ

Праблема дэмаграфіі ў рэспубліцы вылучылася ў рад першачарговых. Калі 70-я гады прывялі ў гарады Беларусі 3 мільёны вяскоўцаў, то канец 80-х прайшоў пад знакам чарнобыльскіх перасяленняў. Яшчэ не вырашана гэта пытанне, а да яго ўжо далучыліся праблемы дэмабілізацыі афіцэраў, якія вяртаюцца на радзіму. Аказалася, што шмат выхадцаў з рэспублікі служылі ў краінах Усходняй Еўропы, няўтульным стала жыццё для многіх славян у рэспубліках Сярэдняй Азіі, Закаўказзя, Прыбалтыкі... Ад вучоных - дэмографаў Беларусі патрабуюцца не толькі карысныя парады для вырашэння гэтых складаных праблем, але і распаўсюджанне ідэі міру, як цяпер высветлілася, не толькі за межамі былога СССР, але і тут, унутры, дзе мы шмат гадоў лічылі, што мірнае суіснаванне народаў непарушнае.

Беларускі вучоны-дэмограф **Ала ПЕШКАВА** з'яўляецца аўтарам і кіраўніком праекта «Дэмографы — за мір», які адкрыты ў Беларускім фондзе міру 28 красавіка 1990 года.

— Праект, — гаворыць А. Пешкава, — гэта навуковае аб'яднанне асоб, якія маюць на мэце развіваць дэмаграфічныя даследаванні і міжнародныя сувязі, аб'ядноўваць намаганні дэмографаў розных краін для пашырэння міжнароднага дыялога і барацьбы за мір. Гэта значыць, што трэба збіраць і абменьвацца данымі па дэмаграфічных і сацыяльных пераменах. Дзеля дасягнення гэтых мэт праект «Дэмографы — за мір» не толькі наладжвае і развівае сувязі з дэмографамі ўсіх краін, але і супрацоўнічае з дзяржаўнымі і навуковымі арганізацыямі, творчымі саюзамі і асобамі: садзейнічае шырокаму абмену аб'ектыўнай дэмаграфічнай інфармацыяй паміж беларускімі і замежнымі дэмографамі, ажыццяўляе абмен кнігамі, перыядычнымі выданнямі і г. д., праводзіць сустрэчы з тымі дэмографамі, якія прыязджаюць у Рэспубліку Беларусь, а таксама арганізуе выступленні беларускіх і замежных вучоных, садзейнічаючы распаўсюджванню дэмаграфічных ведаў. Праект накіроўвае за мяжу беларускіх вучоных для ўдзелу ў міжнародных дэмаграфічных мерапрыемствах.

Сродкі на ажыццяўленне праекта фарміруюцца з членскіх узносаў, укладаў, ахвяраванняў і спадчын. Яны могуць паступаць таксама з іншых законных крыніц.

Членамі праекта могуць стаць тыя, хто цікавіцца дэмаграфічнымі праблемамі. Для гэтага ім дастаткова паведаміць вучонаму сакратару праекта, што яны жадаюць быць яго членамі. Тыя, хто не з'яўляецца членамі праекта, таксама могуць быць запрошаны ўдзельнічаць у яго мерапрыемствах. Арганізацыя складаецца з кіраўніка, намесніка і вучонага сакратара. Працуюць яны амаль на дабрачынных пачатках. Калі па тых ці іншых прычынах данае супольніцтва распадзецца, усе навуковыя матэрыялы, бібліятэка, нават грошы будуць перададзены другому таварыству, мэты якога падобныя на мэты «Дэмографаў — за мір». Месцазнаходжанне арганізацыі: **Рэспубліка Беларусь, горад Мінск, 220050, вул. Савецкая, 14, кв. 4. Тэлефон: 20-73-41.**

*ЗНОЙДЗЕНА Ў КНІГАСХОВІШЧАХ ПОЛЬШЧЫ*

# БІБЛІЯТЭКА ВІКТАРА КАЛІНОЎСКАГА

Апошнія гады ў публікацыях, прысвечаных паўстанню 1863 года ў Беларусі і Літве ўсё часцей і часцей побач з імем Кастуся Каліноўскага стала з'яўляцца імя яго старэйшага брата Віктара. Аднак вывучэнне жыцця і дзейнасці Віктара Каліноўскага ідзе марудна, прычына таму — занадта мала неабходных крыніцазнаўчых матэрыялаў. Тых, якія выяўлены ў архівах Масквы, Санкт - Пецярбурга, Вільнюса і Гродна, зусім недастаткова для больш глыбокага асвятлення яго біяграфіі.

У ходзе пошукаў у бібліятэках і кнігасховішчах Польшчы аўтару гэтых радкоў удалося выявіць шэраг каштоўных першакрыніц, што тычацца біяграфіі Віктара Каліноўскага. Аб адной з іх — «Каталогу кніг, што засталіся добрай памяці Віктары Каліноўскім у Пецярбургу» (С.-Пецярбург, 1864 год), якая цяпер знаходзіцца ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі імя Асалінскіх у Вроцлаве, хацелася б расказаць у гэтай публікацыі.

Нагадаем коратка асноўныя вехі жыццёвага шляху і дзейнасці Віктара Каліноўскага. Гэтак жа, як і Кастусь, ён нарадзіўся ў Мастаўлянах Гродзенскай губерні 21 красавіка 1833 года і, значыць, быў старэйшы за яго на пяць гадоў. (Кастусь нарадзіўся 2 лютага 1838 года). Сярэднюю адукацыю атрымаў у Свіслацкай і Гродзенскай гімназіях. У 1852 годзе паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта, аднак урачом не стаў, таму што яго прызваннем была гісторыя.

У 1856 годзе разам з Кастусём ён пераехаў з Масквы ў Пецярбург і, дзякуючы пасрэдніцтву нейкага Палонскага, а таксама ўраджэнца Гродзеншчыны Дамініка Іваноўскага, атрымаў дазвол працаваць у аддзеле рукапісаў імператарскай Публічнай бібліятэкі. Тут ён выконваў даручэнні Віленскай Археалагічнай камісіі: выяўленне і капіраванне розных рукапісаў, што тычыліся гісторыі Беларусі і Літвы, і адначасова вёў самастойныя даследаванні па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, а таксама гісторыі сялянскіх рухаў Беларусі і Украіны XVIII стагоддзя. У прыватнасці, ён напісаў манаграфію «Уманская разня» аб паўстанні ўкраінскіх сялян 1768 года ў раёне горада Умані (цяпер Чаркаская вобласць Украіны). Праца была падрыхтавана ім да друку. Аднак яе далейшы лёс, пакуль невядома.

Адначасова Віктар Каліноўскі разам з Кастусём быў членам канспіратыўнай Пецярбургскай рэвалюцыйнай арганізацыі, у якую ўваходзілі выхадцы з Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы. Больш таго, разам з Дамброўскім, Сераkоўскім і Агрызкам Віктар Каліноўскі належаў да яе кіраўніцтва.

Віктар Каліноўскі быў заўзятым бібліяфілам. За шэсць год свайго знаходжання ў Пецярбургу (1856—1862) ён сабраў унікальную бібліятэку, што налічвала сотні рукапісаў і кніг. Пасля таго як ён, захварэўшы на туберкулёз, восенню 1862 года выехаў на радзіму ў Якушоўку (Гродзенская губерня) да бацькі, гэта бібліятэка засталася ў надзейных руках у Пецярбургу.

Пасля смерці Віктара Каліноўскага (ён памёр 6 лістапада 1862 года ў Якушоўцы, пахаваны ў Свіслачы) бібліятэкай зацікавіліся ў Львове, дзе добра ведалі Віктара Каліноўскага як маладога таленавітага вучонага і бібліяфіла. Па просьбе львоўскіх мецэнатаў, хутчэй за ўсё дырэктара бібліятэкі імя Асалінскіх Аўгуста Бялёўскага, які асабіста ведаў Віктара Каліноўскага, у Пецярбургу быў складзены і перасланы ў Львоў «Каталог». Асоба, што склала яго, пакуль невядомая. Доўгія гады «Каталог» захоўваўся ў Львове. З 1946 года ён знаходзіцца ў Вроцлаве ў бібліятэцы імя Асалінскіх, куды быў перавезены з Львова разам з часткай бібліятэкі пасля заканчэння другой сусветнай вайны.

Вроцлаўскі «Каталог» з'яўляецца бясспрэчна самай каштоўнай крыніцай для вывучэння біяграфіі як Віктара, так і Кастуся Каліноўскіх.

Нават пры беглым знаёмстве з ім кідаецца ў вочы, што «Каталог» складзены не спецыялістам, таму што не адпавядае патрабаванням апісання кніг, прынятым у бібліяграфіі. Бібліёграф - дылетант, якому было даручана скласці вопіс бібліятэкі, проста браў кнігі з паліцы ці стоса, ставіў у каталогу парадкавы нумар, для таго каб улічыць агульную колькасць кніг, як гэта робіцца пры інвентарызацыі, указваў (а часам і прапускаў) прозвішча аўтара, затым скарочана, а іншы раз і не зусім правільна, запісваў назву кнігі, яе фармат. Калі выданне было шматтомным, указваў колькасць тамоў. Не заўсёды пазначалася месца і год выдання той ці іншай кнігі.


KROTOFILNE
TRAGÆDIE,
Tudzież
VCIESZNE ROZMOWY
Dwoyga Ludzi/
o
KAZANIV
Mistrzá swego/ niżey mianowánego.
Drukowano W Toruniu, Roku 1642

Пасля беглага знаёмства з гэтым важным і цікавым дакументам хацелася б выказаць некаторыя заўвагі, самыя агульныя. Кнігі, унесеныя ў «Каталог», на наш погляд, можна аднесці да наступных галін гуманітарных ведаў: гісторыі (беларускай, польскай, усеагульнай), права (беларускага, польскага), філасофіі, мастацкай літаратуры, мовазнаўства, бібліяграфіі.

Больш за ўсё ў «Каталогу» кніг, прысвечаных розным праблемам гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. І не дзіўна. Гэта была асноўная галіна навуковых інтарэсаў Віктара Каліноўскага і яго малодшага брата Кастуся, стрыжань, вакол якога ішло фарміраванне бібліятэкі. У «Каталогу», у прыватнасці, значацца палемічная літаратура XVI—XVIII стагоддзяў, сеймавыя выступленні вядомых палітычных дзеячаў таго часу, рашэнні царкоўных сінодаў, каралеўскія і гетманаўскія універсалы і г. д. У якасці прыкладу можна назваць такія малавядомыя сучаснаму чытачу публікацыі, як «Смерць П. Я. Сапегі...» С. Тупіка (Вільня, 1667), «Праўдзівая рэляцыя аб навагрудскай дыспутацыі» (б. м., б. г.), «Трыбунал Вялікага княства Літоўскага» (б. м., 1793), «Аб Заходняй Расіі» (Магілёў, 1793), «Прамова пінскага пасла Кужанецкага на сейме 1793 года» (б. м., б. г.), «Слоўнік старажытнасцей» Пірамовіча (Полацк, 1807), «Вянец бессмяротнасці. З прычыны канчыны Кацярыны Радзівіл» Вітаньскага (Вільня, 1643) і многія інш.

Каб пералічыць усе кнігі па гэтай прабламе, якія меліся ў бібліятэцы Віктара Каліноўскага, давялося б перапісаць не адзін дзесятак радкоў з гэтага змястоўнага манускрыпта, які складаецца з шасці старонак надзвычай вялікага фармату. Разам з тым хацелася б звярнуць увагу на наступную асаблівасць, якая павінна прыцягнуць да «Каталога» бібліятэкі Віктара Каліноўскага ўвагу гісторыкаў беларускай кнігі: значная колькасць кніг, што належалі Віктару Каліноўскаму, была выдадзена ў XVI—XVIII стагоддзях на тэрыторыі Беларусі і Літвы ў друкарнях Гродна, Віцебска, Магілёва, Оршы і іншых беларускіх гарадоў. Асабліва многа кніг было надрукавана ў друкарнях Вільні і Полацка.

У «Каталогу» значацца таксама працы такіх вядомых гісторыкаў і філосафаў антычнасці, як Луцый Аней Сенека, Ціт Лукрэцый Кар, Ціт Лівій, Карнелій Непот, а таксама значная колькасць копій з рукапісаў XVI—XVIII стагоддзяў, што адносяцца да гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы.

Значна менш у «Каталогу» кніг, прысвечаных мастацкай літаратуры і мовазнаўству. Гэта перш за ўсё выдадзены ў Пецярбургу ў 1859 годзе зборнік вершаў выдатнага польскага паэта XIX стагоддзя Цыпрыяна Каміла Норвіда (1821—1883) «Аўтадафэ», зборнік сатырычных эпіграм вядомага прадстаўніка эпохі Адраджэння ў Рэчы Паспалітай ураджэнца Беларусі Станіслава Ягадынскага (1590—1664) «Грош», зборнік вершаў вядомага прадстаўніка эпохі Асветы на беларускіх і польскіх землях, ураджэнца Віцебшчыны Францішка Князьніна (1750—1807) «Эротыкі» і інш. Зборнікі названых паэтаў сведчаць несумненна аб літаратурных густах уладальніка бібліятэкі, які любіў і жартоўную, і лірычную, і грамадзянскую паэзію.

У «Каталогу» значацца таксама выдадзеная ў Вільні ў 1788 годзе «Французская граматыка», а таксама «Нямецка-польскі размоўнік» (месца і год выдання апошняга ў «Каталогу» не пазначаны). Гэта, у прыватнасці, дабаўляе некаторыя штрыхі да характарыстыкі асобы Віктара Каліноўскага. Вядома было, што ён, як і яго брат Кастусь, валодалі французскай мовай. Цяпер жа можна меркаваць, што Каліноўскі-старэйшы меў цікавасць і да вывучэння нямецкай мовы. Гэта пацвярджаецца і іншымі крыніцамі.

Вялікае значэнне, як відаць з «Каталога», уладальнік бібліятэкі надаваў бібліяграфіі. У ім, у прыватнасці, значацца, такія фундаментальныя бібліяграфічныя працы па гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, як «Бібліяграфічныя кнігі» Іахіма Лялевеля (Вільня, 1823, т. 1—2), «Бібліяграфічна-гістарычны нарыс літаратуры і навукі ў Польшчы» Адама Ёхера (Вільня, 1839—1857, т. 1—2), «Гісторыя польскай літаратуры, прадстаўленая апублікаванымі работамі Фелікса Бенткоўскага» (Варшава, 1814, т. 1—2).

У бібліятэцы меліся кнігі на шасці мовах: польскай, лацінскай, французскай, нямецкай, рускай і беларускай. Пераважная большасць — на польскай і лацінскай мовах. І гэта тлумачыцца тым, што бібліятэка Віктара Каліноўскага была асабістай бібліятэкай вучонага, для якой кнігі падбіраліся ў асноўным па дзвюх тэмах- — гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. Натуральна, што больш за ўсё літаратуры па гэтых праблемах можна было набыць у той час на польскай ці лацінскай мовах і ў значна меншай ступені — на іншых мовах, у прыватнасці, рускай.

У «Каталогу» значыцца толькі пяць кніг на рускай мове. На жаль, іх назвы з «Каталога» мы ўстанавіць пакуль не можам, таму што ў «Каталогу» прадстаўлены толькі іх парадкавыя нумары 213—217 і збоку супраць лічбаў запісана адно слова — рускія. Варта памятаць, што «Каталог» складаўся для пакупніка — бібліятэкі імя Асалінскіх у Львове, якога цікавілі толькі кнігі, што тычыліся гісторыі Літвы і Польшчы.

Пра беларускую кнігу (кнігі) у бібліятэцы Віктара Каліноўскага гутарка пойдзе ніжэй.

Крыніцы дазваляюць высветліць часткова і шляхі фарміравання бібліятэкі Віктара Каліноўскага. У значнай ступені яна камплектавалася за кошт дароў яго сяброў і знаёмых вучоных, кнігалюбаў, выдаўцоў і г. д., з якімі Віктар пастаянна сутыкаўся на сваім жыццёвым шляху і якім аказваў ўсемагчымыя паслугі.

Напрыклад, у бібліятэцы меліся асобныя тамы 10-томнага выдання Зводу польскіх законаў (Volumina legum), што выйшлі ў пецярбургскай друкарні нашага земляка, ураджэнца Лепельшчыны, выпускніка Мінскай губернскай гімназіі Іясафата Агрызкі (1826 —1890). Яны несумненна былі падараваны Віктару Каліноўскаму самім выдаўцом, з якім Віктара звязала асабістая дружба.

Шэраг выданняў В. Каліноўскі атрымаў ад Адама Кіркора, з якім пазнаёміўся ў Пецярбургу ў канцы 1856 года ў час прыезду Кіркора ў сталіцу па справах Віленскай Археалагічнай камісіі.

Некалькі кніг падарыў Віктару Каліноўскаму дырэктар бібліятэкі імя Асалінскіх у Львове Аўгуст Бялёўскі, які летам 1857 года прыязджаў у Пецярбург для работы ў імператарскай Публічнай бібліятэцы і які падтрымліваў сяброўскія адносіны з Віктарам Каліноўскім да самай смерці апошняга. У знак удзячнасці за дапамогу, аказаную яму Віктарам у час работы ў імператарскай Публічнай бібліятэцы, А. Бялёўскі прыслаў яму «Сочинения» Станіслава Жулкеўскага» (Львоў, 1861), вядомага польскага дзяржаўнага дзеяча другой паловы XVI— пачатку XVII стагоддзяў, у выданні якіх прымаў удзел сам Віктар Каліноўскі. Ён, у прыватнасці, пераслаў у Львоў некалькі копій пісем С. Жулкеўскагаг, арыгіналы якіх захоўваліся ў імператарскай Публічнай бібліятэцы. А. Бялёўскі прыслаў яму таксама «Вучоныя запіскі бібліятэкі імя Асалінскіх» і іншыя кнігі.

Добрым знаёмым Віктара Каліноўскага быў вядомы рускі вучоны, прафесар рускай гісторыі Санкт - Пецярбургскага універсітэта М. Кастамараў (1817—1885). Разам з Віктарам Каліноўскім ён часта працаваў у рукапісным аддзеле імператарскай Публічнай бібліятэкі і, як сам адзначаў у сваіх успамінах, звяртаўся за дапамогай да яго вялікіх ведаў. Са свайго боку, М. Кастамараў мог дарыць В. Каліноўскаму свае кнігі, што часта выходзілі тады. Не выключана, што сярод тых пяці рускіх кніг, што меліся ў бібліятэцы Віктара Каліноўскага, былі і творы М. Кастамарава. Блізкім знаёмым Віктара Каліноўскага быў таксама пецярбургскі кнігавыдавец І. Кажанчыкаў, ад якога ў выглядзе падарунка В. Каліноўскі мог атрымаць некалькі кніг і ў якога магчыма рыхтавалася да друку манаграфія В. Каліноўскага «Уманская резня», напісаная на рускай мове.

Але ўсё ж асноўным шляхам фарміравання і напаўнення і папаўнення бібліятэкі з'яўлялася купля кніг. Мы ведаем, што Віктар Каліноўскі вёў сціплы, падзвіжніцкі лад жыцця невядомага вучонага, зарабляючы сабе на жыццё пошукам, а затым капіраваннем ў аддзеле рукапісаў імператарскай Публічнай бібліятэкі розных рэдкіх дакументаў як для навуковых устаноў (напрыклад, Віленскай Археалагічнай камісіі), так і прыватных асоб (графаў Плятэраў, Агінскіх і інш.), якіх, відаць, цікавілі пытанні сямейнай генеалогіі. Падобныя занятківі не маглі прынесці значных даходаў. Нават на знешнім выглядзе Віктара Каліноўскага адбівалася беднасць, якая кідалася ў вочы акружаючым, пра што можна меркаваць па ўспамінах Кастамарава.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**

(Заканчэнне будзе).

# ІЗ АГНЮ ДЫ Ў ПОЛЫМЯ

**Міхась КАВЫЛЬ**

Гаспадыню быццам хто штурхнуў кулаком пад бок — голасна ўсклікнула:

«А як-жа?.. Прымаў!.. Каб яго так сырая зямелька нягодніка прыняла! Я не баюся пра яго так казаць, бо ведаю, хто ты... Не па добрай-жа ахвоце ты апынуўся ў нашых краёх. Ня вер Кашыну ні ў адно слова. Ён подлы чалавек. Ён-жа тады Тухачу дапамагаў лавіць паўстанцаў. Майго Мікалая ён выдаў на сьмерць камуністам. Сьцеражыся яго, сынок, вось што я табе раджу... Ага, забыла табе сказаць: дапытваўся ў мяне, ці наведваўся да нас калі-небудзь дзед Сьцяпан?..»

— Які гэта дзед Сьцяпан?

— Ну, як які? Той сторож калгаснага кароўніка, што, кажуць, падпаліў кароўнік.

— Я, Варвара Мікалаяўна, дзеда Сьцяпана ня ведаю і пра падпал нічога ня чуў. Ведаю, што кароўнік згарэў, бо й сам прымаў удзел у тушэньні, але казалі, што кароўнік падпаліла маланка.

— Усе так кажуць, але прыдзіраюцца да дзеда Сьцяпана, бо ён — «ненадзейны»... У першую вайну быў у нямецкім палоне, пазьней прымаў удзел у паўстаньні, за што адбыў дзесяць гадоў недзе на Салаўкох... Вось і чапляюцца, бо савецкая ўлада грахі нікому не даруе. Я таксама «грэшная», бо жонка паўстанца. Ці не таму Кашын і водзіць сюды розных сабакаў, нешта вынюхоўвае... А яшчэ цябе «грэшнага» ўзяла на кватэру...

— Вы, Варвара Мікалаяўна, мяне не ўзялі, — супакойваў гаспадыню Язэп, — мяне да вас прызначыў той-жа Кашын.

— Дык вось, і пытаньне: чаму ён прызначыў да мяне, а не да каго іншага?

— Гэтага я ня ведаю... Але вам няма чаго баяцца. Калі што, я магу ад вас выбрацца...

— Ды не, не праймайся. Я так ляпнула. Я іх нікога не баюся... Ня той час...

— І я так думаю. Усё-ж я ў Кашына даведаюся, чаго яны наведваліся.

— Даведайся, а я палезу на печ... Штось мяне трэсьці пачынае...

Змучаная падарожжам у Мічурынск, Варвара Мікалаяўна хутка заснула, ня чула, калі Язэп пайшоў і калі вярнуўся.

***

Ад Кашына Лабач вярнуўся сам ня свой. Хаця Кашын падбадзёрваў Язэпа, каб ня вельмі праймаўся пачутым, але як было не праймацца, калі над ягонай галавой заносіўся «меч пралятарскай рэвалюцыі». Пачуў Язэп ад Кашына, што «тыпус» падазрае яго ў «змове з дзедам Сьцяпанам... У змове падпалу кароўніка...»

«Падозра — яшчэ ня доказ, — супакойваў сябе Лабач, — але-ж спрабуй дакажы гэтым сабакам, калі прычэпяцца. У іх свая дыялектыка: ты ўжо вінаваты таму, што «кляймаваны», што, калі не нашкодзіў савецкай уладзе сёньня, дык нашкодзіш заўтра. У мірны час цябе цярпелі, а ў часе, калі чуваць ужо грымоты гітлероўскіх «бэртаў», ад цябе трэба збавіцца... Цікава, калі «тыпус» зьявіцца з ордэрам на арышт? А ён зьявіцца... Сядзець і чакаць, як вол доўбні? Не, трэба ўцякаць... Не ўцякаць, а кудысь ехаць, рухацца, каб новыя акалічнасьці, спатканьні з людзьмі дапамаглі разьвеяць невясёлыя думкі. Зматаюся ў Варонеж, пабачуся з Клашай. Заняткаў у школе ня будзе — Кастрычнік... Праз пару дзён вярнуся. А тады, што будзе, тое і будзе...»

— Варвара Мікалаяўна!

— Што ты хочаш?

— Я мушу вас на пару дзён пакінуць.

— Гэта не навіна. Ня першы раз. А куды надумаўся?

— У Варонеж.

— Я так і падумала. Жадаю посьпеху!

Падзякаваўшы гаспадыні за пажаданьне і за добры акраец хлеба «на дарогу», Язэп Лабач пусьціўся наўцёкі ад самога сябе. Не палохалі яго ні цёмная ноч, ні гразкая далёкая дарога да паўстанку Ізьбярдзей...

## БЫЛІЦА ПЯТАЯ

Як доўга цягнік поўз да Варонежа, Язэп ня мог зарыэнтавацца. Ды ня гэтым яго галава была забіта. Ня вылазіла із галавы пытаньне: «Як прайсьці праз станцыю не заўважаным міліцыянэрамі? Прайсьці так, як прайшоў тры гады таму назад?»

У 1938 годзе, напрадвесьні, Язэп ехаў у Варонеж у такой-жа прастрацыі, як і гэты раз. Ехаў ён у горад, адкуль тыдзень таму назад яго выгналі як «ненадзейны элямэнт», ехаў у «рэжымны» горад, нарушаў паспартызацыю. Выйсьця іншага ў Лабача не было, мусіў ехаць, каб папрасіцца ў Аблано на працу настаўніка. Як-ніяк два гады правучыўся на Літфаку Пэдінстытуту. Ведаў, што настаўнікаў недахоп, а таму, можа, дапусьцяць яго, «беларускага нацдэма», адбарабаніўшага тры гады за калючым дротам, да працы. Ня будзе-ж ён расейскіх дзяцей навучаць вызваляць Беларусь ад расейскай акупацыі. Такой контррэвалюцыяй ён мог займацца ў Беларусі, а не ў Расеі. У Беларусі пасьля вызваленьня з канцлагера яму жыць на роднай Случчыне не дазволілі — «пагранічная паласа». У Менску — не дазволілі: «рэжымны». А ў «нерэжымных» сам не пажадаў прапісвацца: пабаяўся, бо для такіх, як ён, з кляймом «нацдэм», уся Беларусь была сьлізкай вяроўкай, працягнутай над безданьню. Балансаваць на вяроўцы з цяжкім грузам «ненадзейны» небясьпечна. Далей трэба трымацца ад гэтай «вяроўкі». І Лабач трымаўся: пераехаў у Варонеж.

Ці Лабачу тады дапамагла ноч, ці апэратыўнікі прамаргалі, але ён спакойна зьлез з цягніка, спакойна прайшоў у вялікую залю, спакойна выйшаў на вуліцу і... колькі меў сілы, пусьціўся да трамвая № 4, які затрымаўся на «кальцы». Чацьвёрка празьвінела праз увесь Варонеж, давезла Язэпа ў рабочы пасёлак заводу «Камінтэрн». Там жыў яго сябра па няшчасьцю Васіль Васільявіч Васільяў, былы «вор», завадатай «блацакоў», а тады ўжо ліцейшчык «Камінтэрну» і нават садмілец, і нават сямейны чалавек.

З Васілём Васільявым Лабач пазнаёміўся ўзімку 1936 году, калі прыехаў у Варонеж першы раз. Тады Язэп не баяўся міліцыі, бо ў кішэні ляжала «ксіва» (спраўка) аб звальненьні із канцлягеру. Ды і Варонеж тады яшчэ ня быў «рэжымным». Зрабілі яго «рэжымным» у 1938 годзе.

Прыехаў тады Лабач у Варонеж позьнім вечарам. Зайшоў у вялікую парожную залю. За буфэтам сноўдаліся дзьве дзяўчыны. Язэп паставіў чамадан каля століка, схадзіў у буфэт, купіў «дзьвесьце - грамаў» і, вярнуўшыся да століка, палез у чамадан дастаць каўбасу. Калі разагнуўся, трымаючы ў руках закуску, убачыў перад сабою высокага блакітнавокага бляндына ў старэнькім пакамечаным лапсардаку і з такім-жа пакамечаным і даўно ня мытым тварам. Па бакох бляндына стаялі меньшыя ростам, такія-ж пакамечаныя, брудныя і па-матроскі расстаўленымі нагамі, сьціснутымі кулакамі, пранізваючы злосным поглядам, дэманстравалі гатоўнасьць на «мокрую справу». Язэп адразу зразумеў, хто яны. Зразумеў, чаго яны падыйшлі — аграбіць, а. калі ён закапышыцца, расьпісацца фінкай на фізіі. Але, на яго зьдзіўленьне, бляндын выцягнуў із задняй кішэні паўлітроўку, паставіў на стол і запытаў мягка, лагодна: «Можна нам тут прызямліцца і выпіць?» — «Чаму-ж не? — з радасьцю ў голасе адказаў Язэп. — Я вось і закусон добры маю. Маці, дзякуй ёй, пашкадавала свайго вастрожніка і сабрала тое-сёе на дарогу». Слова «вастрожніка» Язэп трошкі мацней вымавіў, каб даць зразумець, з кім няпрошаныя госьці маюць справу. І госьці зразумелі, а пазьней, выпіваючы і закусваючы, пазнаёміліся. Язэп даведаўся, што бляндын—Васіль Васільявіч Васільяў—ленінградзкі жулік, нядаўна вызвалены із Сьвярдлоўскага вастрогу, а яго «корышы»: адзін Колька Галубок, а другі Сашка Ціхі. Язэп на пытаньне: «За што судзіўся?» — адказаў: «За хуліганства...» Сашка і Колька пераглянуліся, а Васіль Васільявіч няўпрыкмецъ усьміхнуўся, але, як здалося Язэпу, усё-ж паверылі і, праверыўшы Язэпаву «ксіву», працягнулі яму рукі ў знак салідарнасьці і зразуменьня. Даведаўшыся, што яго новыя знаёмыя начуюць у вагонах на таварнай станцыі, а часам на вакзале, калі трапіцца добры дзяжурны мільтон, Язэп прапанаваў схадзіць да сястры Міці Красналуцкага, сябра па канцлягеру, які пры разьвітаньні даў Язэпу свой адрыс, пазнаёміцца, і, можа, удасца там знайсьці часовую «хавіру». І, пакінуўшы Сашку і Кольку пільнаваць Язэпаў чамадан, Васіль з Лабачом пайшлі шукаць сястру Міці. Нядоўга паблукаўшы, знайшлі, але вярнуліся зь нічым: сястра Міці жыла ў маленькай канурцы. Жыла з малою дачушкай і старэнькай маці. Павярнуцца самім ня было дзе. Давялося і Язэпу ісьці начаваць у вагоны. Адну ноч ён пракачаўся на другой полцы, а на другую ноч апэратыўнікі акружылі вагон і павыганялі ўсіх «кваціранатаў» на пякучы мароз. А было-ж тых «кваціранатаў» болей за дзьве сотні: і пажылыя, і маладыя, і дзяўчата, і хлапчукі. Гадзінаў чатыры качанелі на марозе, пакуль не прыйшоў начальнік жалезнадарожнага ГПУ і не павялі па чарзе ў цёплы будынак на допыт. Начальнік, праверыўшы дакуманты, заглядаў у ліст паперы, вадзіў па ім пальцам зьлева направа, а пасьля аднаму паказаў рукою ісьці ў адзін куток, а другому ў другі. Як пазьней даведаўся Язэп, у адзін куток начальнік накіроўваў тых, хто папаўся ў яго рукі другі раз, а ў другі куток навічкоў. Хто папаўся другі раз, атрымліваў у адміністрацыйным парадку тры гады зьняволеньня за туняадства: не працуе, не мае кватэры. Язэп Лабач і яго кампаньёны былі навічкамі. Ім начальнік сказаў: «Калі трапіце да мяне другі раз, ня гневайцеся: пойдзеце туды, адкуль нядаўна прыйшлі. Шукайце працу, станавецеся на правільны шлях жыцьця».

Добры, як бачна, начальнік, але Васілю і яго корышам ня вельмі жадалася ісьці «ўкалваць», лягчэй для іх было на чорным рынку абкрадаць разявак-шпікулянтак. Язэп параду начальніка ўспрыняў паважна. Калі ён і яго сябры на гэты раз, па шчасьцю, апынуліся на вуліцы, сказаў Васілю: «Ведаеш што? Будзем уладжвацца на «правільны шлях». Так бадзяцца лягчэй, як працаваць, але ня хочацца мне, як кажуць, із агню ды ў полымя...» Васіль маўчаў, нешта абдумоўваў. У гэты час падыйшла да іх невялічкая чарнявая дзяўчына. Яе дапрашваў начальнік пасьля Язэпа. Яна таксама папалася першы раз. Як быццам сваім даўно знаёмым, чарнявая з пасьпешнасьцю прамовіла: «Ведаеце што, «ребята»? Я чула, што ёсьць загад Ягоды даваць такім, як мы, грашавую дапамогу. Трэба толькі схадзіць у абласную міліцу і запоўніць адпаведныя паперы». Васіль скрывіўся, вылупіў блакітныя вочы, узяў незнаёмку за руку і ціха ёй на вуха: «Як цябе мама вялічала?» — «Маруся... А што?» — «Ты, Маруська, ня «шухры»... Мы ня з «луны» зваліліся, каб лезьці чорту ў зубы...» Маруся вырвала руку, крутнулася, каб разьвітацца з «дурнямі», але Васіль схапіў яе ізноў і загадаў: «Мы пойдзем з табой у міліцу, і я пагляджу, як табе там «памогуць». Капыш?» Маруся згадзілася. І ўсе пайшлі. Там Марусю Васіль Васільявіч адправіў у вялізны шэры будынак, а ўсё кодла засталося на прыступках ля дзьвярэй чакаць выніку. Чакалі доўга, нэрваваліся, зьбіраліся «змывацца», ажно рашчыніліся шкляныя шырокія дзьверы, упадскокі выскачыла із шэрага дому Маруська з паднятаю ўгару рукой і, патрасаючы новенькімі купюрамі, загаласіла: «Бачыце, хлопчыкі?.. Трыццаць зялёненькіх адхапіла!..»

Ня трэба хіба размазваць, што было далей. Скажу коратка. Уся брація атрымала па трыццаць рублёў «разовай дапамогі» і накіраваньне на працу на завод «Камінтэрн». Маруська таксама. І Язэп Лабач. Дзіву ня трэба давацца, чаму «контрыку» далі дапамогу: у анкеце, у графе з пытаньнем пра «стацьцю», ён паставіў «74 УК» (угалоўнага кодэксу), але не напісаў «УК БССР», бо гэтая стацьця ў Беларусі азначала контррэвалюцыя. У РСФСР гэтая 74 стацьця азначала хуліганства. Міліцыя, бадай, не зьвярнула ўвагу на гэтую махінацыю Лабача і залічыла яго ў «сацыяльна блізкія».

На «Камінтэрне» Лабача прынялі на працу кладаўшчыка, Васіля, Колю і Сашу — у ліцейны цэх. Марусю — у такарны цэх. Жылі хлопцы ў агульнажытку ў адным пакоі. Жылі дружна. А неяк нечакана згулялі Васілёва з Марусяй вясельле...

Наставіўшы каўнер старэнькага пальто, нахлабушыўшы на вочы шапку, каб часам у сьвятле вулічных ліхтароў у рабочым пасёлку яго хто-небудзь з работнікаў «Камінтэрну», спаткаўшы, не пазнаў, Язэп дабег да дзьвярэй Васілёвай кватэры на другім паверсе і моцна пагрукаў. Адчыніў Васіль. Вылупіў вочы ды так, быццам убачыў перад сабою не Язэпа жывога, а нябожчыка. Ведаў Васіль, што Лабача выгналі із Варонежа, што ён тут незаконна зьявіўся, але хоць і быў садмільцам, схапіў Язэпа за руку і пацягнуў у пакой. Ня меней была зьдзіўленая і Маруся. Язэп, не чакаючы роспытаў пра тое, чаго ён рызыкнуў, хутка, хвалюючыся, сказаў: «Даруйце мне за мой дурнацкі паступак... Я — у бязвыхадным становішчы».

Седзячы неўзабаве за столікам, выпіваючы і закусваючы, Язэп расказаў пра незаконную паездку ў Беларусь, у «запретную зону» на мяжы з Польшчай, дзе жывуць яго родныя. Там ён прахаваўся цэлы тыдзень.

Далей рызыкаваць і падводзіць пад небясьпеку родных, калі ўлады даведаюцца пра яго прыезд, не дазваляла сумленьне і нежаданьне апынуцца ізноў за кратамі, рашыў, як кажуць, кінуцца із агню ды ў полымя, каб у тым «полымі», не пагарэўшы, атрымаць працу.

— Не разумею, што ты, Юзік, разумееш пад словам «полымя»? — сказаў Васіль. — Зьбіраешся, можа, ізноў ісьці ў міліцыю прасіцца на працу?

— Не, Вася. Ня ў міліцыю, а Облоно — Областной отдел народного образования.

— Цяпер я разумею, але і не разумею. Облоно такое-ж «полымя», як і міліцыя. Пагарыш ты, браце, без агню і дыму...

— Будзь я на тваім мейсцы, паехаў-бы ў Тамбас ці Арол. Гэтыя гарады не «рэжымныя».

Маруся падтрымала Васіля. Згадзіўся і Язэп, але было адно «але»: ні ў Тамбове, ні ў Арле ня было знаёмай душы, у каго-б можна было на пару дзён затрымацца. Калі пра гэта Язэп распачаў гутарку, Васіль сказа: «Не бядуй, браток! Няма такіх перашкодаў, якія-б не маглі перамагчы... блацакі. Гэта жартам, а паважна — паедзеш да майго сябра... Зараз я мушу ісьці на працу. Паедзеш заўтра раненька. Мы цябе праводзім на станцыю. Я пачаплю на рукаў вось гэтую «садмілаўскую» анучу, і ніхто нас не зашухарыць. Кладзіся спаць. Кладзіся з Марусяй...»

Калі за Васілём зачыніліся дзьверы, толькі тады да Язэпа дайшлі словы «кладзіся з Марусяй». Сапраўды яму ня было дзе класьціся, бо ў пакойчыку каля сьцяны стаяла адна вузенькая раскладушка. Заўважыўшы разгубленасьць Язэпа, Маруся паставіла каля раскладушкі тры табурэткі, ускочыла на пасьцель і пацягнула за руку Язэпа. Не распранаючыся, ён прымасьціўся на табурэтках, адвярнуўся плячыма да Марусі. Але, як ён ні адсоўваўся, цяплыня Марусінага маладога цела атуляла яго плечы, дурманіла напоўненую алькагольнаю параю галаву... Але зморанасьць, алькаголь перамаглі спакусу маладога цела — Язэп моцна заснуў.

Калі ўраньні прыйшоў з працы Васіль, Маруся ашарашыла яго навінай :«А мы зь Юзікам цалаваліся...» Васіль кісла скрывіўся і замахнуўся на яе кулаком, кажучы: «Ня выдурняйся, Мурка, бо я табе не паверу. Юзіку не да цябе...» Так, Язэпу было не да Марусі.

Калі селі за невялічкі столік, выпілі па шклянцы гарбаты, Язэп прамовіў: «А ўсё такі я пайду ў Аблано... Чаму быць, таго не мінаваць. У Тамбове няма Аблано, бо Тамбоў належыць да Варонежскай вобласьці. Хто мяне накіруе на працу?

— Паяжджай тады ў Арол. Там ёсьць Аблано...

— Не, Вася. Не цягне мяне ў Арол. Пайду сюды...

— Табе відней... Нам бліжэй будзе насіць табе «перадачы»...

Але «перадачы» насіць Васілю не давялося: Язэп схадзіў у Аблано, падаў заяву і атрымаў накіраваньне на працу ў Валчкоўскую дзесяцігодку на працу выкладчыка расейскай мовы і літаратуры.

З «накіраваньнем» у кішэні вярнуўся да Васіля. «Абмылі» яны ўдачу. Васіль пачапіў на рукаў «садмілаўскую анучу» і з Марусяй пайшлі праводзіць на станцыю нарушыцеля паспартызацыі...

***

У вагоне, дзе сядзеў Язэп і і ўспамінаў вышэйсказанае, быбыло некалькі чырвонармейцаў. Быў адзін лейтанант. Ён зайшоў у купэ, пастаяў, паглядзеў на Язэпа, памкнуўся нешта сказаць, але перадумаў і выйшаў. Неўзабаве вярнуўся, стаў пры ўваходзе і час ад часу кідаў позірк на Язэпа. Лабач занепакоіўся, а пасьля спужаўся, бо пазнаў у лейтананце добрага знаёмага Мікалая Сяргеява, зь якім сядзелі за адной партай у Пэдінстытуце. Сяргееў ведаў, за што Лабача выгналі із Варонежа. Ён нават праводзіў Язэпа на станцыю, махаў рукою на разьвітаньне.. Ня быў Сяргееў камсамольцам, але-ж быў ужо ў форме ўнутраных войск...

Працяг. Пачатак у №№ 7—9.



**Вуліца Рэвалюцыйная ў Мінску. Тут, у адным з дамоў, з 1925 па 1931 год жыў і працаваў выдатны навуковец і дзеяч беларускага нацыянальнага руху Усевалад ІГНАТОЎСКІ. 20 лютага, праз 61 год пасля ягонае смерці, грамадства ўшанавала памяць аднаго з лідэраў Адраджэння пачатку стагоддзя. На ўрачыстасці прысутнічалі прадстаўнікі гарадскіх улад, Рэспубліканскага Скарынаўскага цэнтра, людзі, якім дарагая памяць пра Усевалада Ігнатоўскага.**

**Фота В. СТАВЕРА.**

# ІМЯ ДАЕЦЦА ТОЛЬКІ РАЗ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

гісторыкі і краязнаўцы) паступова расла вёсачка. Манахам, як звычайна, маглі належаць навакольныя землі, лугі, выпасы, сенажаці, лясы. На манастырскіх землях жыць было зручна і выгадна, таму, можна думаць, людзі з навакольных паселішчаў і пацягнуліся пад манастырскія сцены. Не выключана, што сяляне, якія заснавалі вёсачку побач з манастыром, таксама лічыліся манастырскай уласнасцю. Так, хутчэй за ўсё, і было. Мы намячаем толькі «эскіз» магчымага гістарычнага апавядання пра ўзнікненне Ігумена. Тут дарэчы будзе прыгадаць і тое паданне, якое пераказвае са спасылкай на П. Шпілеўскага аўтар артыкула «Вяртаць! Але як?». У кожным выпадку назва **Ігумен** змяшчае каштоўную гісторыка-культурную інфармацыю, адлюстроўвае такія факты, сукупнасць якіх якраз і складае гісторыю Бацькаўшчыны. Атаясамляць жа значэнне геаграфічнай назвы Ігумен з нейкай «заімшэлай папоўшчынай» ці бачыць за звычайным моўным фактам... гвалтоўную русіфікацыю беларускага краю — значыць, наўмысна ці міжвольна падмяняць культурна-пазнавальную інфармацыю тапоніма грубой, вульгарнай ідэалогіяй.

Што ж датычыць назвы **Чэрвень,** то яна суадносіцца са словам **чырвоны,** з тым абазначэннем колеру, якое сімвалізавала паняцце «рэвалюцыйны». У першыя паслярэвалюцыйныя гады перайменаванні рабіліся якраз па прынцыпу антытэзы: **Раманава** (вёскі Горацкага і Слуцкага раёнаў, назва якіх «напамінала» царскае прозвішча) — **Леніна** (перайменаванні адбыліся ў 1918 і 1921 гадах); **Князь-Возера — Чырвонае возера** (1932 год). **Папоўшчына** (вёска Хойніцкага раёна) — **Кастрычнік** (1920 год) і інш. Такім чынам, ніякай культурна-гістарычнай сімволікі, пра якую гаворыць М. Віж, у назве **Чэрвень** не адлюстравана. Гэты тапонім з'яўляецца абстрактным і не нясе ніякай культурна - гістарычнай інфармацыі. Іншая справа, што ён «пабудаваны» даволі ўдала — па старажытнай тапанімічнай мадэлі (параўнаем назву летапіснага горада Чэрвеня ў Галіцкай зямлі, месцазнаходжанне якога дакладна невядома). Але гэта сутнасці справы не мяняе. Назва **Чэрвень** павінна быць ліквідавана.

Вось іншыя прыклады. Якой назве аддаць перавагу — **Койданава** ці **Крутагор'е!** Гэтыя спрэчкі нам таксама здаюцца, скажам так, «непрафесійнымі». Найменне **Койданава** з'яўляецца спрадвечным абазначэннем таго населенага пункта, які сёння пакуль завецца **Дзяржынскам.** Назва **Крутагор'е** гістарычна мела дачыненне не столькі да паселішча, колькі да мясцовасці ўвогуле, дзе знаходзіцца самая высокая кропка на тэрыторыі Беларусі — 345 метраў над узроўнем мора. Палеміка вакол таго, ці была бітва з татарскім ханам Кайданам у 1249 годзе ў наваколлях сённяшняга Дзяржынска, ці не была, не павінна з'яўляцца перашкодай для афіцыйнага вяртання назвы **Койданава.** Гэта геаграфічнае імя ўтварылася пры дапамозе славянскага суфікса-фарманта **-ава-** ад цюркскага асабовага імя **Кайдан.** Нараджэнне тапоніма **Койданава** трэба звязваць з узнікненнем геаграфічных назваў тыпу **Татары, Татаршчына, Татарка,** якія фіксуюцца ў асноўным на тэрыторыі былых Віленскай і Мінскай губерняў. Гэтыя імёны маглі ўзнікнуць паміж 1392 і 1430 гадамі, калі правіцелі Вялікага княства Літоўскага садзейнічалі перасяленню татар у межы дзяржавы (аб прычынах і абставінах гэтага перасялення гл. у кнізе: А. Мухлинский. Исследование о происхождении и состоянии литовских татар. — С.-Птб., 1857). Паселішча, якое атрымала пазней назву **Койданава,** заснаваў нейкі правадыр групы татар па імені **Кайдан.**

Пэўную праблему ўяўляе вяртанне гістарычнага імя гораду Слаўгараду — **Прапойск.** Нашы папярэднія разважанні як быццам дазваляюць зрабіць выснову: назва **Прапойск**, якая ўтварылася ад наймення вадацёку **Прапóй** (так, верагодна, называўся той участак, дзе Проня зліваецца з Сожам; параўн. геаграфічны тэрмін **прóбій** — «прорва», «пратока», а таксама назвы рэчак **Прóбій, Прабóец, Прабійна** на Украіне; прорва пад назвай **Прабіцец** злучае ў Кіеве рачулку Чартарою з Дняпром), павінна вярнуцца. Але трэба ўлічваць і тыя негатыўныя сэнсавыя асацыяцыі, якія выклікае назва **Прапойск.** Дарэчы, сярод геаграфічных назваў, што мяняліся ў 1938, 1939, 1964 гадах (менавіта на гэтыя гады прыпадаюць асноўныя перайменаванні на тэрыторыі Беларусі ў савецкі час), амаль 90 працэнтаў складаюць якраз так званыя «неэстэтычныя» найменні. Вось некаторыя з тых назваў, якія былі ліквідаваны Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 30 ліпеня 1964 года: **Гавінавічы, Блудзень, Дурычы, Свінёва, Блошня, Гразная, Паршэвічы, Пенцюхі, Мямлі, Касалапы, Кукішы, Цуцкі, Чартаўшчына, Галоднічы, Мартышкі, Самадураўшчына, Затычына, Пахабаўшчына, Сабачкі, Глупікі** (аб прычынах «нараджэння» падобных «перлаў» ёсць сэнс іншы раз пагаварыць асобна).

Вяртаць гэтыя і падобныя найменні на карту рэспублікі няма ніякай магчымасці. Вось чаму мы вельмі скептычна ставімся да заклікаў тыпу «Вяртаць!» без папярэдняга дэталёвага, удумлівага і разважлівага аналізу сутнасці справы. Вось чаму мы ўпэўнены, што «тапанімічная рэвалюцыя», якая вось-вось распачнецца ў Беларусі, можа прывесці да суцэльнага хаосу ў рэгіянальнай тапанімічнай сістэме.

Але вернемся да назвы **Прапойск.** Яна не самая горшая з тых неэстэтычных найменняў, якія мы нагадалі, да таго ж яна датычыцца дастаткова буйнога населенага пункта, узыходзіць да старажытных часоў (першае ўпамінанне — у 1136 годзе) і мае «нейтральнае» этымалагічнае значэнне. Усяго гэтага няма ў найменняў тыпу **Касалапы, Затычына, Гавінавічы** і інш. Таму пытанне аб афіцыйным вяртанні назвы **Прапойск** замест штучнай, хоць і даволі ўдала створанай назвы **Слаўгарад** (апошняя напамінае двухасноўныя славянскія найменні тыпу **Ноўгарад, Стараград, Мілаград, Іванград),** можа быць пастаўлена на рэферэндум (маецца на ўвазе апытанне жыхароў Слаўгарада). Калі за вяртанне назвы выкажацца 50 працэнтаў тых, хто прыняў удзел у апытанні, плюс адзін голас, то **Прапойск** зноў з'явіцца на карце Рэспублікі Беларусь.

Што ж датычыць іншых неэстэтычных найменняў, то сітуацыя тут вельмі складаная. Справа ў тым, што ў большасці выпадкаў ні старое, ні новае найменне (сярод апошніх пераважаюць ідэалагізаваныя абазначэнні накшталт **Першамайская, Камунарка, Партызаны, Гвардзейская, Дружнае, Саўгасная** ці псеўдаэстэтычныя назвы тыпу **Майскае, Сонечнае, Зялёны Лог, Лужайкі, Клёны, Вішнявец, Ягадная, Зоранька, Лугавая, Арэшніца, Светлая)** не могуць лічыцца здавальняючымі. Відавочна, у такіх выпадках трэба ствараць зусім новае, трэцяе, найменне. Матэрыялам для назваў-неалагізмаў могуць паслужыць мікратапанімічныя абазначэнні — назвы азёр, лагчын, лясоў, балот, узвышшаў і г.д., якіх надзвычай шмат у наваколлях кожнай вёскі. Канкрэтныя прапановы аб новых назвах могуць уносіць самі жыхары адпаведных населеных пунктаў, але ўсё роўна павінен існаваць нейкі цэнтр (напрыклад, тапанімічны савет пры Вярхоўным Савеце), які каардынаваў бы гэту працу.

Аўтару гэтых радкоў у апошні час даводзілася чуць наступныя меркаванні: маўляў, англічане цалкам нейтральна, спакойна ўспрымаюць такія назвы, як **Насці** (літаральна «неахайнае», «агіднае», «бруднае»), **Бойлз** («нарывы»), **Фаўл-Хоўл** («брыдкі закутак»), таму і беларусам не трэба саромецца ўжываць характэрныя ў гэтым плане найменні. На наш погляд, у Беларусі пэўная «англійская сэнсавая мадэль» у тапаніміцы непрыгодная. І вось чаму. У англійскай нацыянальнай традыцыі такой функцыі геаграфічнага імя, як **эстэтычная,** не надаецца істотнага значэння. У нашым, славянскім, бачанні назвы эстэтыка імя адыгрывае куды большую ролю. Не выпадкова па аб'ектыўных прычынах, а не па «прымусу» адбывалася адараванне з тапанімічнай сістэмы нават такіх назваў, як, напрыклад, някрасаўскія «Горелово, Неелово, Неурожайка тож...», не гаворачы ўжо пра яшчэ больш «неэстэтычныя». Гэтая асаблівасць усходнеславянскай тапаніміі абумовіла фарміраванне і ўсведамленне пазнаваўчай, культурна-гістарычнай функцыі геаграфічных іменаў. Назвы ўспрымаліся не проста як меткі, знакі, з дапамогай якіх можна адрозніць адзін аб'ект ад іншага (функцыя арыентавання пераважае над усімі астатнімі, напрыклад, у той жа англійскай тапанімічнай сістэме), але і як моўныя знакі, якія адлюстроўваюць гісторыю мясцовасці ва ўсіх яе шматвобразных праяўленнях Не выпадкова менавіта ва ўсходнеславянскім фальклоры існуе вялікая колькасць тапанімічных легенд і паданняў, якія апавядаюць пра паходжанне паселішча і яго назвы. У Англіі населеныя пункты амаль не перайменоўваюцца, а для тэрыторыі Усходняй Славіі перайменаванні — звычайная справа, і не толькі ў савецкі час.

Яшчэ ў практыцы расійскіх землямераў у часы Генеральнага межавання Расіі канца XVIII стагоддзя было прынята правіла ліквідаваць «непрыстойныя» назвы. Законам аб межаванні 1767 года прадпісваліся рознага роду геаграфічныя аб'екты, якія аказаліся пры межаванні «пад назвамі непрыстойнымі», а асабліва сорамнымі, у межавых кнігах і планах пісаць іншымі «званнямі», выключаць пры гэтым з папярэдніх назваў ці прыбаўляць зноў некаторыя літары па прыстойнасці, каб праз то мелі яны (назвы.— **А. Р.**) ужо не сорамнае гучанне» (гл: Полное собрание законов Российской империи. — Т.XVIII — С.-Птб., 1830, с. 376). Да пачатку XX стагоддзя асноўная колькасць «сорамных» найменняў была ліквідавана. Астатнія скасавалі ўжо ў савецкі час. І сёння нам не варта адраджаць тыя моўныя «помнікі», ад якіх выракліся продкі.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

# МЭТА — КААРДЫНАЦЫЯ НАМАГАННЯЎ

У канцы мінулага года ў мінскім Доме літаратара праходзіла ўстаноўчая канферэнцыя фалькларыстаў. Галоўным яе вынікам стала ўтварэнне Асацыяцыі фалькларыстаў Беларусі (АФБ). 170 дэлегатаў прадстаўлялі фалькларыстаў і дзеячаў культуры рэспублікі. На канферэнцыі быў зацверджаны Статут АФБ, прыняты рэзалюцыі, былі абраны кіраўнічыя органы і старшыні дзевяці камісій. Прэзідэнтам асацыяцыі стаў спадар Васіль Ліцвінка, загадчык навукова - даследчай лабараторыі беларускага фальклору і дыялекталогіі. Віцэ-прэзідэнтамі абралі спадара Аляксандра Баршчэўскага, загадчыка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, вядомага таксама пад літаратурным псеўданімам Алесь Барскі, і спадара Тадэвуша Стружэцкага, начальніка ўпраўлення культустаноў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Праведзены выбары 30 членаў Рады АФБ. На думку ініцыятараў канферэнцыі, асацыяцыя павінна аб'яднаць носьбітаў, выканаўцаў, інтэрпрэтатараў і прыхільнікаў беларускага фальклору для яго адраджэння, развіцця і прапаганды. Мэтай АФБ арганізатары паставілі: стварэнне адзінага цэнтра збірання, выдання і захавання мэтанакіраванай падрыхтоўкі да святкавання беларускіх народных святаў, радзінаў, вяселляў, арганізацыю мэтавай падрыхтоўкі фалькларыстычных кадраў вышэйшай кваліфікацыі і інш. Плануецца выдаваць часопіс «Фальклор».

Варта адзначыць, што ў Мінску ў 1994 годзе пройдзе Міжнародны фестываль фальклору і сябры АФБ маюць намер прыняць самы непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы да яго.

Прэзідэнт АФБ у гутарцы з журналістам сказаў: «У фальклоры закладзена нацыянальная самастойнасць і твар нашага народа. Карані беларускай культуры паходзяць з паганства, і беларусы ці не адзіны славянскі народ, які захаваў паганскую абрадавасць большасці святаў, якія, па сутнасці, з'яўляюцца земляробчымі і святкуюцца па сонечнаму календару. Таму трэба весці барацьбу супраць русіфікаваных форм культуры, і гэта тычыцца не толькі фальклору. Варта адзначыць і такі аспект, як пераадоленне нацыянальных межаў паміж прадстаўнікамі розных галін фалькларыстыкі — гэта навукоўцы і практыкі, славеснікі, музыказнаўцы і інш. Трэба пераадолець уніфікацыю фальклору. Ды і ў галіне народнай адукацыі назіраецца абыякавае стаўленне да вывучэння беларускай нацыянальнай культуры.

І хоць многія цяжкасці няпроста пераадолець, на гэты час склалася спрыяльнае становішча. Яго трэба выкарыстоўваць з мэтай уплыву на дзяржаўную сістэму ў галіне фальклору.

**Андрэй ВАШКЕВІЧ.**

*СПОРТ*

# ПА СВЕЖЫХ СЛЯДАХ АЛІМПІЯДЫ

Высокая арганізацыя, шчодрасць народных талентаў, гасціннасць гаспадароў і ўпартая барацьба за ўзнагароды — усё нібы злілося ў адзін клубок на Алімпіядзе ў Альбервілі. І толькі адно засмуціла нас: упершыню за ўсю гісторыю ўдзелу спартсменаў былога Саюза і пры адкрыцці, і пры закрыцці Гульняў на стадыёне не лунаў наш флаг, не гучаў наш гімн у гонар пераможцаў. А іх у камандзе зборнай СНД, за якую выступалі і прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь, было нямала. Дзевяць залатых, шэсць сярэбраных і восем бронзавых медалёў заваявала яна ў Альбервілі. Гэта другі вынік — наперадзе каманда Германіі: 26 узнагарод. Але не трэба забываць, як цяжка было нашым спартсменам весці падрыхтоўку да Алімпіяды. Не хапала сродкаў на трэніроўкі, паездкі на міжнародныя перадалімпійскія спаборніцтвы. Мільёны тэлегледачоў бачылі, што на спартыўных формах спартсменаў СНД стаялі надпісы: СССР. Ізноў жа не хапіла грошай на экіпіроўку каманды.

Гэтыя «дробязі» не прайшлі, вядома, міма публікацый замежных і нашых журналістаў аб Алімпіядзе. Але больш за ўсё матэрыялаў яны прысвяцілі пераможцам Гульняў.

У зборнай СНД назвалі гераіняй Альбервіля лыжніцу Любоў Ягораву. Тры вышэйшыя ўзнагароды ўнесла яна ў скарбонку нашай зборнай. Наогул лыжніцы СНД выступілі лепш за ўсе каманды на Алімпіядзе, чаго не скажаш пра мужчын: ні аднаго медаля. Такога яшчэ не было за ўсю гісторыю Гульняў.

На жаль, засталіся без медалёў і канькабежцы. А тут мы вельмі спадзяваліся на мінчаніна Ігара Жалязоўскага. Сваю няўдачу шматразовы чэмпіён свету апраўдвае неспрыяльнымі ўмовамі трэніровак (тыя ж грошы, калі не ўдавалася паехаць на перадалімпійскія спаборніцтвы і г. д.). Магчыма крышачку «перамудрылі» і трэнеры. Ведалі, што Ігар добра бяжыць 1 000 метраў, а яго заявілі перад гэтай дыстанцыяй і на 500, і 1 500 метраў.

Ну а калі гаварыць пра іншых прадстаўнікоў нашай рэспублікі, то назавём перамогі фігурысткі Наталлі Мішкуцёнак, хакеіста Мікалая Баршчэўскага ў складзе зборнай сенсацыйнае выступленне біятланіста Яўгена Рэдзькіна, якога трэнеры ўзялі ў Альбервіль літаральна ў апошні час. Ды і то, «каб набраўся малады спартсмен вопыту». А ён выйграў «золата» на дыстанцыі 20 кіламетраў.

Алімпіяда закончылася. Якія думкі выклікае яна? Розныя. Радуе, што спартсмены Рэспублікі Беларусь праз два гады на Гульнях у Нарвегіі будуць выступаць асобнай камандай. Добра ведаем: не ва ўсіх відах алімпійскіх стартаў чакаюць іх перамогі. Нас у гэтым пераканалі прайшоўшыя старты ў Альбервілі, Так, магчыма за два гады знойдуцца дватры такія самародкі, як Яўген Рэдзькін. Вельмі магчыма. Практыка ж паказвае, што за такі кароткі тэрмін падрыхтаваць чэмпіёнаў ва ўсіх відах спорту немагчыма.

А скласці канкурэнцыю і Швецыі, і Канадзе, і Фінляндыі, і іншым «зімнім» краінам мы павінны. Сам такі факт, што праз два гады ў Нарвегіі будзе лунаць нацыянальны флаг Рэспублікі Беларусь, усяляе ў нас асаблівы гонар.



**Болеслав ВЛОДАРЧИК из Польши разыскивает бывшего офицера «Армии Крайовой» Ксаверия БЛАСЯКА (псевдоним Альберт), предположительно проживающего в г. Минске.**

**Адрес Б. Влодарчика из Ченстохова находится в редакции «Голасу Радзімы» (тел. 33-02-80).**

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**ЦВІЛЕВІЧ Станіслаў Станіслававіч** шукае **Алену БАГДОНАС** і яе дзяцей, сястру **Марыю** і брата **Івана БАГДОНАСАЎ.** Іхні дзед **ТАТУР Іосіф Антонавіч** выехаў у ЗША з Капыльскага раёна Мінскай вобласці яшчэ перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Жыў у горадзе Таліда.

Усіх, хто што-небудзь ведае пра сям'ю **БАГДАНОСАЎ**, просім звяртацца па адрасу: **Рэспубліка Беларусь, 220092, г. Мінск, вул. Адоеўскага, д. 52, кв. 44.**

**ЦВІЛЕВІЧУ Станіславу Станіслававічу.**

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### БУЛЬБЯНА-ПРАСЯНАЯ ЗАПЯКАНКА

**Звараную бульбу працерці, дабавіць невялікую колькасць прасяной кашы, масла, сырое яйка, соль, дробна нарэзаную і падсмажаную да светла-залацістага колеру рэпчатую цыбулю і старанна перамяшаць. Бульбяную масу выкласці на разагрэтую патэльню, папярэдне змазаную тлушчам, разраўняць, зверху змазаць смятанай ці топленым маслам і запячы ў духоўцы.**

**8—10 штук бульбін, 1—1,5 шклянкі прасянай кашы, 2—3 яйкі, 2—3 сталовыя лыжкі смятаны, 50 грамаў тлушчу, 1—2 сталовыя лыжкі масла, 3 цыбуліны, соль.**

### СМАЖАНКА РЫБНАЯ З БУЛЬБАЙ (у гаршчочку)

**Кубікі філе акуня нарэзаць, запаніраваць у муцэ і абсмажыць. Адварыць папярэдне замочаныя сушаныя грыбы, дробна парэзаць і абсмажыць з цыбуляй. Абабраную бульбу нарэзаць кубікамі і злёгку абсмажыць. У гаршчочак пакласці слаямі бульбу, рыбу, грыбы, цыбулю, а зверху зноў бульбу. Паліць смятанай і рыбным булёнам, пасаліць па густу і тушыць да гатоўнасці. Пры падачы на стол пасыпаць дробна пасечанай зялёнай пятрушкай.**

**8 штук бульбін, 300 грамаў філе акуня, 2 цыбуліны, 2 сталовых лыжкі масла, 30 грамаў сушаных грыбоў, 4 сталовыя лыжкі смятаны, 2 сталовыя лыжкі мукі, пятрушка, соль.**



**Дзівакі ці мудрацы! — пакуль дзесяткі ўхутаных у цёплае адзенне мінчан вырашаюць гэта пытанне, аматары зімняга плавання смела прымаюць сцюдзёныя ванны на Камсамольскім возеры, каб адчуць радасць купання ў ледзяной вадзе.**

**А яшчэ больш людзей збіраецца на Мінскім моры. З самай раніцы месца на лёдзе аблюбавалі аматары-рыбаловы. І, як бачым, вяртаюцца дамоў не з пустымі рукамі.**

**НА ЗДЫМКАХ: «хрышчэнне» ў ледзяной купелі; рыбацкае шчасце.**

**Фота А. ВАЛЯНЦІНАВА.**




РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку» Індэкс 63854. Заказ № 445.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12